*На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

**№ 23 (4172)**

21 сакавіка 2017 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

Слонім, 19 сакавіка

**СКАЗАНА!**

*Учора Аляксандр Лукашэнка прыняў ваенных з дакладам наконт задум пра правядзенне сумесных стратэгічных вучэнняў Узброеных сіл Беларусі і Расіі «Захад-2017». Вось некалькі цытат.*



Аляксандр ЛУКАШЭНКА

## Пра ваеннае супрацоўніцтва з Расіяй

«Для сродкаў масавай інфармацыі асабліва адзначу, што насуперак меркаванням асобных «экспертаў» ніхто не збіраецца згортваць супрацоўніцтва з Расіяй у ваеннай галіне з-за ўзніклых рознагалоссяў у іншых сферах. Наадварот, вучэнне з'яўляецца дэманстрацыяй нашага пастаянства ў арганізацыі бяспекі двух братэрскіх народаў».

***

«Як бы ні складваліся нашы адносіны ў галіне нафты, газу, прадуктаў харчавання і іншага – гэтыя ўсе пытанні вырашаюцца. Гэта нашы пытанні – Беларусі і Расіі. А вось жартаваць з бяспекай, абараназдольнасцю нашых агульных межаў ні ў якім разе нельга. Гэта не падлягае ніякаму віду гандлю».

## Пра прысутнасць на вучэннях прадстаўнікоў НАТА

«Гэтае мерапрыемства абсалютна празрыстае, і я патрабую ад усіх вас, каб гэтае мерапрыемства на тэрыторыі нашай краіны было празрыстым і ўсе мерапрыемствы былі даступныя не толькі для нашых сяброў па АДКБ, ЕАЭС, СНД, але і для прадстаўнікоў НАТА. Мы нічога не ўтойваем і ўтойваць не мусім. Калі натаўцы хочуць прысутнічаць на нашым вучэнні, калі ласка. Тым больш я такую інфармацыю і такія сігналы з іх боку ўжо атрымліваю».

## Пра боегатоўнасць беларусаў

«Не трэба думаць, што калі раптам нейкі канфлікт, то армія будзе дзейнічаць сама па сабе, а ўсе будуць сядзець склаўшы рукі і чакаць вынікаў. Мы рыхтуем людзей, у прыватнасці ствараючы сілы тэрытарыяльнай абароны. І рыхтуем, акрамя сіл тэрытарыяльнай абароны, усё насельніцтва да таго, каб абараніць тэрыторыю нашай краіны і інтарэсы нашай дзяржавы. Прыбыццё і знаходжанне расійскіх войскаў на нашай тэрыторыі павінна пакінуць у памяці афіцэраў і салдат, нашых гасцей толькі станоўчыя эмоцыі. Гэта нашы людзі. Нам разам адстойваць нашу абарону і бяспеку».

**ДАРЭЧЫ**

## Раўкоў – пра падрабязнасці вучэнняў



Міністр абароны Беларусі Андрэй Раўкоў пасля дакладу паведаміў, што вучэнне «Захад-2017» пройдзе з 14 па 20 верасня. Агульная колькасць войскаў, прыцягнутых да вучэнняў, не будзе перавышаць тых параметраў, якія вызначаны Венскім дакументам 2011 года, – не больш за 13 тысяч чалавек асабовага складу.

«Ад Расійскай Федэрацыі для ўдзелу на нашай тэрыторыі ў сумесным стратэгічным вучэнні плануецца каля 3 тысяч вайскоўцаў і каля 280 адзінак тэхнікі», – паведаміў міністр.

Акрамя сухапутнага складніка будзе задзейнічана і авіяцыя, у тым ліку да 25 лятальных апаратаў з расійскага боку.

«Ніякага ажыятажу няма. Усё планава», – запэўніў Андрэй Раўкоў.

**ДЭМАКРАТЫЯ ПА-БЕЛАРУСКУ**

# Дазволілі – не дазволілі?

*Учора заяўнікі акцыі 25 сакавіка павінны былі сустрэцца з прадстаўнікамі сталічных улад, але адбылася толькі размова па тэлефоне.*

20 сакавіка заяўнікам шэсця на Дзень Волі павінны былі паведаміць у Мінгарвыканкаме, ці дазваляюць гарадскія ўлады правядзенне акцыі. Арганізатары прасілі дазвол на мерапрыемства 25 сакавіка па наступным сцэнарыі: збор удзельнікаў у 14.00 на пляцоўцы каля Акадэміі навук і шэсце праспектам Незалежнасці да парку Янкі Купалы.

“*Нечакана патэлефанавалі з Мінгарвыканкама і паведамілі, што сустрэча адмяняецца*, – распавёў “Народнай Волі” заяўнік акцыі ад аргкамітэта па стварэнні партыі “Беларуская хрысціянская дэмакратыя” **Дзяніс САДОЎСКІ**. – *Дадалі, што, маўляў, рашэнне мы атрымаем па пошце. Але ж, наколькі вядома, адказ гарадскія ўлады павінны даць за пяць дзён да правядзення мерапрыемства*”.

Каб атрымаць хаця б ксеракопію рашэння, учора ж заяўнікі адправіліся ў Мінгарвыканкам, але паход аказаўся безвыніковым.

“*У будынак нас, натуральна, не пусцілі*, – дадае Дзяніс Садоўскі. – *Калі ж датэлефанаваліся да чыноўнікаў з ідэалагічнага аддзела, то тыя і наогул заявілі, што няма часу з намі сустракацца, а рашэнне накіравана поштай. У выніку заставалася толькі напісаць усё, што думаем з гэтай нагоды, у Кнігу заўваг і прапаноў*”.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

**ХРОНІКА**

# Эстафетныя акцыі

Падобна на тое, што ў рэгіёнах акцыі пратэсту праходзяць па эстафеце. Вось і ў Слоніме 19 сакавіка на плошчу выйшла каля 300 чалавек. Пратэстоўцаў сустрэў старшыня райвыканкама **Алег Таргонскі** і раённыя чыноўнікі. Таргонскі запрашаў удзельнікаў мітынгу на асабістыя прыёмы, падкрэсліваючы, што «так зможа дэталёва вывучыць праблему кожнага». Ён прызнаў, што ў Слоніме ёсць праблемы з дзіцячай паліклінікай і дарогамі. Таксама падкрэсліў, што дзеянне дэкрэта №3 прыпынена, улады спрабуюць вырашыць праблему беспрацоўя.

Дарэчы, у размове з пратэстоўцамі старшыня слонімскага райвыканкама паабяцаў заступіцца за кожнага ў выпадку рэпрэсій за ўдзел у акцыі «Марш недармаедаў». Але пасля мітынгу быў затрыманы адзін з арганізатараў «Маршу недармаедаў» у Слоніме **Віктар Марчык.**

Напярэдадні, 18 сакавіка, нягледзячы на мокры снег, у Мазыры выйшлі некалькі дзясяткаў чалавек, каб выказаць незадавальненне дэкрэтам №3, эканамічнай сітуацыяй у горадзе і краіне.

Адразу пасля сходу былі затрыманы яго ўдзельнікі – беспрацоўныя Аляксандр Шаўко, Аляксандр Барысенка і Аляксандр Трошка. Аляксандра Шаўка ўчора суд пакараў 10 суткамі арышту за парушэнне правілаў арганізацыі і правядзення масавых мерапрыемстваў.

У гэты ж дзень, 18 сакавіка. некалькі дзясяткаў чалавек узялі ўдзел у акцыі ў Баранавічах.

Яшчэ да пачатку Маршу былі затрыманы актывіст незалежнага прафсаюза РЭП **Рыгор Грык** і сябра Партыі БНФ **Мікалай Чарнавус** (старэйшы), якія былі асноўнымі арганізатарамі акцыі. Сябра Аб'яднанай грамадзянскай партыі **Мікалай Чарнавус** (малодшы), які браў актыўны ўдзел у папярэдняй акцыі супраць дэкрэта №3 у Баранавічах 26 лютага, 17 сакавіка асуджаны на 12 сутак адміністрацыйнага арышту.

**РОЗНЫЯ ПОГЛЯДЫ**

# У агучаным Мікалаем Статкевічам плане на 25 сакавіка Зянон Пазьняк бачыць «чыста правакацыйны праект»

*Аб гэтым заявіў лідар Кансерватыўна-хрысціянскай партыі – БНФ Зянон Пазьняк у эфіры тэлеканала «Белсат».*

Паводле яго слоў, незразумела, што гэта будзе – святкаванне Дня Волі або пратэст супраць дэкрэта аб «дармаедстве».

«*Я бачу чыста правакацыйны праект*», – сказаў Пазьняк, маючы на ўвазе прапанову Статкевіча прайсці па цэнтральным праспекце і толькі затым вызначыцца, што рабіць далей. Ён адзначыў, што падобныя акцыі з удзелам Статкевіча былі і раней: «Марш свабоды» ў 1999 годзе, калі той «*завёў усіх у тупік і ўсіх разагналі*», і акцыя 19 снежня 2010 года, калі палітык «*аператыўна ўдзельнічаў у правакацыі*».

Пазьняк растлумачыў, што з дапамогай такіх выступленняў улада вылічвае незадаволеных і пачынае ганенні на іх. У сувязі з гэтым ён нагадаў таксама пра акцыі маўклівага пратэсту ў 2011 годзе, арганізатарам якіх, як высветлілася пазней, быў прыхільнік «*русского мира*».

Таму факт, што Статкевіч адседзеў у турме даўжэй за іншых кандыдатаў у прэзідэнты на выбарах 2010 года, лідар КХП–БНФ заклікаў не надаваць значэння. Паводле яго слоў, залежных людзей улада не толькі саджае, але і страляе ў іх, а, напрыклад, падпалкоўніка ФСБ Расіі Аляксандра Літвіненку наогул атруціла палоніем.

Галоўнай дзеючай асобай акцыі 25 сакавіка Пазьняк назваў беларускі народ, які, паводле яго слоў, павінен самаарганізавацца, каб пазбегнуць правакацый і нападаў, а таксама «*абмежаваць дзеянні аднаго чалавека*», выбраўшы «*агульнае кіраўніцтва мітынгу*». На думку палітыка, у правакацыях зацікаўлена Расія, каб пагоршыць адносіны Аляксандра Лукашэнкі з Захадам і ў яго не заставалася іншага шляху, як «*толькі ў Маскву*».

**БелаПАН.**

## Адказ Статкевіча Пазьняку

«*Не буду каментаваць палітыкаў, якія калісьці эмігрыравалі і якія замест таго, каб дапамагаць, спрабуюць паказаць сваё лідарства і там*, – заявіў БелаПАН Мікалай Статкевіч. – *Людзі з'язджалі адсюль па розных прычынах. Ёсць тыя, хто імкнецца дапамагчы, а ёсць тыя, хто толькі аблівае брудам і зайздросціць чужой смеласці*». Паводле слоў палітыка, чым бліжэй да 25 сакавіка, тым больш будзе падобнай «каламуты» з боку ўлады. У той жа час у беларускага народа ёсць шанц «выйсці з тупіка» і паказаць, што прыхільнікаў перамен «вельмі шмат».

З нагоды «Маршу свабоды» ў 1999 годзе Статкевіч адзначыў, што гэта – «вялікая дата ў найноўшай гісторыі». Пасля гэтай акцыі «спынілася выкраданне палітыкаў», а ўлада «змяніла рыторыку» і перастала «нахабна гандляваць незалежнасцю краіны».

**Дзмітрый УЛАСАЎ, БелаПАН.**

Сяргей КАЛЯКІН, старшыня партыі «Справядлівы свет»:

# «Задача мірных акцый – не захоп дзяржаўнай улады, а аказанне ціску на ўладу»

“...Тым, хто арганізоўвае акцыі, трэба быць вельмі акуратнымі, не трэба працаваць на тых, хто хацеў бы паўтарэння 2010 года. Гэта можа вельмі негатыўна адбіцца на развіцці Беларусі.

Трэба вельмі пільна рыхтавацца да акцый у сэнсе ўнутранай абароны людзей, якія выходзяць на вуліцу, і спыняць правакатараў.

Калі прыгадваць 2010 год, то я мяркую, што арганізатары зрабілі тады вялікую памылку. Правакатараў і тых, хто паддаўся на правакацыю, хто пачаў біць шыбы ў Доме ўрада, – іх была абсалютная меншасць, можа, 70–80 чалавек, у той час як на плошчы былі дзясяткі тысяч. Але арганізатары не падумалі аб гэтым, не здолелі спыніць гэтых людзей, што дазволіла ўладам абгрунтоўваць рэпрэсіўныя дзеянні адносна людзей, якія пайшлі на захоп урадавых будынкаў, абвінавацілі ў гэтым не толькі арганізатараў, але і ўсіх людзей, якія прыйшлі на заклік дэмакратычных лідараў на плошчу.

Я не лічу, што трэба зараз часціць з акцыямі, што варта рабіць па 3–4 акцыі на працягу кароткага часу ў адным горадзе, – гэта дэвальвуе іх значэнне, гэта стамляе людзей і зніжае актыўнасць у рэшце рэшт. Акцыі павінны добра рыхтавацца, і фактар правакатараў мусіць заўсёды ўлічвацца.

...Ёсць мірныя акцыі, а ёсць і загадзя спланаваныя і падрыхтаваныя дзеянні па захопе дзяржаўнай улады, як гэта было ў Кіеве. Задача мірных акцый – не захоп дзяржаўнай улады, а аказанне ціску на ўладу і дэманстрацыя людзям, якія выступаюць за змены, што іх вельмі шмат.

...Я не думаю, што мірныя людзі, выходзячы на мірныя дэманстрацыі, вырашаць праблему ўлады. Альбо гэта павінна быць вельмі вялікая колькасць людзей. Але нават тады змена адбываецца не шляхам захопу ўлады гэтымі людзьмі, а праз вельмі сур'ёзныя змены ў існай уладзе.

На Захадзе і сотні тысяч, і па паўмільёна людзей выходзяць на вуліцу, але гэта не прыводзіць да змены ўлады.

...Я пакуль не лічу, што сітуацыя дайшла да кропкі кіпення і што пратэстамі можна змяніць сітуацыю ў Беларусі заўтра ці на працягу бліжэйшага месяца. Але сітуацыя да гэтага ідзе.

Калі ўлада не будзе рабіць для сябе высновы і не будзе нічога рабіць у сацыяльна-эканамічнай сферы, то справы яе пойдуць кепска. Беларусь пойдзе па тым шляху, па якім яе павялі бальшавікі ў 1917 годзе.

Мікалай АЎТУХОВІЧ:

# «Як ты бярэш адказнасць за тое, што не можаш прадухіліць?»

*Былы палітычны зняволены выказаў сваё стаўленне да арганізацыі акцыі 25 сакавіка.*

– Шчыра кажучы, мне не вельмі падабаецца, што Дзень Волі ператвараюць у нейкую маштабную палітычную акцыю пратэсту, – *кажа* ***Мікалай АЎТУХОВІЧ***. – Гэта не вельмі добры “маркетынгавы” ход. Натуральна, што арганізатарам хочацца сабраць як мага больш народа, але ж многія хочуць выйсці на вуліцу не пратэставаць, а менавіта каб адсвяткаваць Дзень Волі. Я заўсёды казаў і кажу, што калі вы ўжо вырашылі арганізаваць палітычную акцыю, то да яе трэба добра рыхтавацца. Яна павінна быць адна, але моцная. Таму не разумею палітыкаў, якія клічуць людзей, быццам бы бяруць на сябе адказнасць за іх бяспеку, а на самай справе ні за што адказваць не будуць. Як ты бярэш адказнасць за тое, што не можаш прадухіліць? Хто адкажа, калі чалавека паб'юць? Таму Зянон Пазьняк, можа, і мае рацыю, калі кажа, што план Статкевіча ў пэўным сэнсе носіць правакацыйны характар. Былі ж ужо прыклады ў гісторыі.

**– Ці даюць нейкі плён тыя пратэсты, якія праходзяць па ўсёй краіне ўжо некалькі тыдняў?**

– Яны даюць людзям магчымасць крыху глытнуць вольнага паветра ды адчуць еднасць. З іншага боку, гэтыя акцыі маюць і крыху падманлівы характар. Бо эфект быў бы, калі б пратэставаць выйшлі не дзвесце-трыста чалавек і не тысяча-дзве, а сотні тысяч...

І яшчэ адзін момант. На акцыі супраць дэкрэта аб “дармаедах” прыходзяць многія з тых, хто ніколі не цікавіўся палітыкай, але зараз жыццё прымусіла іх падаць свой голас. Але ж самі палітыкі іх і падстаўляюць. Самых актыўных пратэстоўцаў у рэгіёнах ужо ўзялі на кантроль, на іх пачаўся ціск... Нельга так махаць шашкай на хвалі незадаволенасці людзей. Адным словам, я прыхільнік таго, каб акцыі давалі канкрэтны плён. Але для гэтага, паўтаруся, трэба сур'ёзна рыхтавацца. Калі гэтага няма, то і ўвесь пратэстны патэнцыял выйдзе, як пара...

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

**ВІНШУЕМ!**

# Хто яны, жанчыны года?

*Падведзены вынікі рэспубліканскага конкурсу «Жанчына года – 2016». Перамаглі 44 прадстаўніцы з усіх рэгіёнаў Беларусі.*

У намінацыі **«За лідарства і паспяховае кіраўніцтва»** пераможніцамі прызнаны:

**Марыя Рацар,** дырэктар брэсцкага КУВГП «Камбінат грамадскага харчавання»,

**Анжаліка Томчына,** галоўны ўрач Віцебскага абласнога клінічнага анкалагічнага дыспансера,

**Алена Алексіна,** старшыня Буда-Кашалёўскага раённага Савета дэпутатаў,

**Наталля Галота,** дырэктар ААТ “ЭНЭФ”,

**Святлана Івуць,** галоўны бухгалтар Лідскага малочна-кансервавага камбіната,

**Наталля Падлесных,** генеральны дырэктар магілёўскай булачна-кандытарскай кампаніі «Дамачай»,

**Яўгенія Нікіціна,** намеснік начальніка ўпраўлення маркетынгу – кіраўнік праекта камерцыйнай службы ААТ «Магатэкс»,

**Кацярына Дубінская,** генеральны дырэктар інфармацыйнага агенцтва «Мінск-Навіны»,

**Таццяна Міхайлоўская,** намеснік старшыні праўлення “Беларусбанка”.

*Заканчэнне на 2-й стар.*



СТАТЫСТЫКА

## Сталічная прамысловасць на ўздыме?

У студзені–лютым 2017 года аб'ём прамысловай вытворчасці Мінска склаў 2 млрд 400,7 млн рублёў і вырас у адносінах да аналагічнага леташняга перыяду на 5,6%, паведаміла галоўнае статыстычнае ўпраўленне Мінска.

ВІЗІТ

## Уладзімір Макей у Амане

Міністр замежных спраў Беларусі Уладзімір Макей другі дзень знаходзіцца з візітам у Султанаце Аман.

Весь пералік яго сустрэч: з кіраўніцтвам урада, Міністэрства замежных спраў, Міністэрства гандлю і прамысловасці, Дзяржаўнага савета, Кансультацыйнага савета, Гандлёва-прамысловай палаты Амана, а таксама з прадстаўнікамі дзелавых колаў.

Прадугледжана таксама падпісанне мемарандума аб узаемаразуменні паміж Міністэрствам спорту і турызму Беларусі і Міністэрствам турызму Амана па супрацоўніцтве ў сферы турызму.

Уладзімір Макей возьме ўдзел у цырымоніі адкрыцця офіса ганаровага консула Беларусі ў Амане Кайса аль-Юсефа.

РЭЗАНАНС

Крысцін МУТОНЕН:

## «Вылучэнне Алены Купчынай на пасаду Генсакратара АБСЕ – пазітыўная ініцыятыва Беларусі»

Як вядома, пастаянны прадстаўнік Беларусі пры АБСЕ, Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Беларусі ў Аўстрыі **Алена Купчына** вылучана на пасаду Генеральнага сакратара АБСЕ.

Старшыня Парламенцкай асамблеі АБСЕ **Крысцін Мутонен** лічыць вылучэнне Алены Купчынай на пасаду Генеральнага сакратара АБСЕ пазітыўнай ініцыятывай Беларусі.

*"Лічу, што гэта пазітыўная ініцыятыва Беларусі. Рашэнне будзе прынята адпаведнымі інстытуцыянальнымі структурамі нашай арганізацыі, але, безумоўна, гэта знак таго, што Беларусь гатова ўсклаці на сябе сур'ёзныя абавязкі ў міжнародных арганізацыях",* – адзначыла Крысцін Мутонен.

КАДРЫ

## Сталічныя ўлады ўкамплектаваліся

*Аляксандр Лукашэнка ўзгадніў прызначэнне намеснікаў старшыні Мінскага гарвыканкама.*

Пасаду першага намесніка старшыні Мінскага гарвыканкама зойме **Фёдар Рымашэўскі**. Да гэтага часу ён займаў пасаду генеральнага дырэктара дзяржаўнага вытворчага аб'яднання «Мінскбуд».

На пасады намеснікаў старшыні Мінскага гарвыканкама прызначаны **Аляксандр Крэпак** і **Ігар Юркевіч**. Раней яны ўзначальвалі адпаведна адміністрацыю Маскоўскага раёна сталіцы і камітэт па ахове здароўя Мінскага гарвыканкама.

Лукашэнка таксама ўзгадніў прызначэнне **Андрэя Жайловіча** кіраўніком адміністрацыі Маскоўскага раёна Мінска.

**Сяргей НІКАНОРАЎ.**

ЁСЦЬ ПЫТАННЕ!

## Ці выдасць Расія Беларусі Юрыя Баранчыка?

Як стала вядома, рэдактар аналітычнай службы расійскага інтэрнэт-партала Regnum грамадзянін Беларусі Юрый Баранчык, якога беларуская праваахоўнікі падазраюць у дачыненні да распальвання расавай, нацыянальнай ці рэлігійнай варожасці, паводле рашэння аднаго з маскоўскіх судоў вызвалены з-пад варты.

Ці будзе беларускі бок дабівацца экстрадыцыі Баранчыка? З гэтым пытаннем мы звярнуліся да прэс-сакратара Следчага камітэта Беларусі **Сяргея Кабаковіча:**

*– Запушчаная экстрадыцыйная працэдура, якой займаюцца кампетэнтныя органы, у прыватнасці з нашага боку – Генпракуратура. Баранчык па-ранейшаму знаходзіцца ў вышуку, і ніхто абвінавачанняў з яго не здымаў. Я думаю, расійскі бок павінен яго выдаць.*

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

ПРЭСА

## «Борисовские новости» вяртаюцца ў дзяржаўныя сеткі распаўсюджвання

*Галоўны рэдактар «Борисовских новостей» Анатоль Букас паведаміў, што з 1 красавіка газета будзе прадавацца праз сетку шапікаў РУП «Белсаюздрук» і ў аддзяленнях РУП «Белпошта».*

Адпаведныя дамовы ўжо заключаны, – распавёў Анатоль Букас прэс-службе БАЖ.

У падпісных каталогах «Белпошты» недзяржаўнае выданне «Борисовские новости» з'явіцца ў другой палове бягучага года.

Нагадаем, у лютым рэдактар «Народнай Волі» Іосіф Сярэдзіч сустракаўся з Аляксандрам Лукашэнкам. Ён перадаў кіраўніку дзяржавы спіс з дзевяці выданняў, якія не могуць трапіць у тую ці іншую дзяржаўную сетку распаўсюджвання. Гэта **«Борисовские новости», «Вольнае Глыбокае», «Газета Слонімская», «Гандаўіцкі час», «Intex-press», «Новы час», «СНплюс. Свободные новости плюс», «Рэгіянальная газета», «ARCHE. Пачатак»**. Лукашэнка паабяцаў вырашыць праблемы з распаўсюджваннем недзяржаўных СМІ.

ЧУЛІ?

## Заробкі банкіраў падкарэкціруюць?

У Беларусі разглядаюць прапановы аб абмежаванні памеру даходаў банкаўскіх работнікаў. Канчатковае рашэнне можа быць прынята ў красавіку. Паводле інфармацыі БелаПАН, пытанне пра заробкі банкаўскіх работнікаў ужо разглядалася ў лютым у Нацбанку на спецыяльнай нарадзе, прысвечанай карпаратыўнаму кіраванню. У ім бралі ўдзел прадстаўнікі кіраўніцтва практычна ўсіх камерцыйных банкаў. Падчас нарады была абвешчана пазіцыя кантрольных органаў, якія лічаць, што заробкі банкаўскіх работнікаў неабходна абмежаваць.

Зараз падрыхтаваны розныя прапановы наконт аплаты працы банкаўскіх работнікаў.

Паводле звестак БелаПАН, адна з прапаноў заключаецца ў тым, каб абмежаваць аклады кіраўнікоў камерцыйных банкаў на ўзроўні, які не перавышае памер акладу старшыні праўлення Нацыянальнага банка.

Альтэрнатыўная прапанова – у банках павінны з'явіцца незалежныя дырэктары, якія займаліся б пытаннем аплаты працы топ-менеджараў.

Незалежныя эканамісты лічаць, што дзяржаве варта ўмешвацца ў даходы топ-менеджараў прыватных банкаў толькі ў тых выпадках, калі дзейнасць крэдытных арганізацый пагражае фінансавай стабільнасці ў краіне.

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ



Вольга КАВАЛЬКОВА:

# «Не ведаю, ці клалі ў тыя катлеты мяса...»

*Некалькі дзён таму з-за кратаў выйшла сябра Нацыянальнага савета аргкамітэта па стварэнні партыі "Беларуская хрысціянская дэмакратыя" Вольга Кавалькова. Яе асудзілі на 7 сутак так званага Маршу недармаедаў, які 10 сакавіка адбыўся ў Маладзечне. Пра сваю першую "ходку" прафесійны юрыст Вольга Кавалькова распавяла "Народнай Волі".*

– Калі зайшла ў камеру ізалятара часовага ўтрымання Маладзечанскага РУУС, то адразу зразумела: тут рыхтаваліся да прыёму сталічных гасцей, – *усміхаецца Вольга*. – Так, мае сукамерніцы распавялі, што напярэдадні майго засялення выдалі туалетную паперу, якой раней не было. А мне нават далі новую бялізну, якая вельмі адрозніваліся ад той, якой карысталіся мае суседкі. Гэта таксама ўсе адзначылі.

Гарбату, напрыклад, нам прыносілі ў кубках. А раней, як мне распавялі, давалі проста кіпень.

Я не ведаю, як у нашых хлопцаў, якія таксама атрымалі тэрміны за "Марш", але асабіста ў мяне запытваліся, што патрэбна, прапаноўвалі звяртацца, калі будуць нейкія просьбы. Выводзілі на прагулкі – адзін раз на дзень на 15 хвілін.

**– А памыцца была магчымасць?**

– Душ я не патрабавала – мы прасілі, каб нам прыносілі гарачую ваду ў бутэльках, прыстасаваліся мыцца ў камеры над рукамыйнікам.

Асноўная прэтэнзія за ўвесь час знаходжання ў ізалятары – ежа. Яна не проста дрэнная, а вельмі дрэнная! Мне выставілі рахунак за гэтыя сем дзён, які я павінна аплаціць. І выставілі ён меназіта за ежу, большую частку з якой я проста выкідвала. Бо яе немагчыма было ўзяць у рот.

**– Чым вас кармілі?**

– На сняданак – каша з катлетай. Калі гэта, канешне, можна назваць катлетай, бо ці клалі ў тыя катлеты мяса, – не ведаю, ці клалі туды мяса...

На абед – суп з вады, бульбы і капусты. Нясмачна, але мы стараліся хаця б булёну гэтага гарачага пасёрбаць. На другое – каша з катлетай.

І на вячэру – проста адна катлета, без нічога.

**– І нават хлеба не давалі?**

– Хлеб і батон выдавалі адразу на дзень з раніцы. Выходзіла прыкладна палова буханкі на дваіх.

Шчыра скажу, што батона такой якасці я ніколі не сустракала ў нашых крамах. Ён такі не белы, а шэры...

**– Дык можа, карысны для здароўя, з цэльназерневай мукі?**

– Не, якраз зроблены з мукі самай нізкай якасці. І калі адломваеш кавалак – ён проста развальваецца ў руках.

**– Я памятаю той час, калі яшчэ знакаміты праваабаронца Валерый Аляксеевіч Шчукін, які здароўе ў турмах згубіў, вельмі настойліва дамагаўся захавання хоць бы самых простых нормаў этыкету ў турмах. І патрабаваў, каб альбо хлеб адразу прыносілі парэзаным, альбо нож давалі, нахай і пластмасавы. Дарэчы, меназіта дзякуючы Шчукіну ў месцах зняволення сталі выдаваць лыжкі, а не нейкія абрубкі...**

– Хлеб нам прыносілі ўжо парэзаны, а вось батон – не. Я яго таксама не ела, бо надта нясмачны. І, шчыра кажучы, вельмі спадзявалася на перадачы. Напачатку, калі не ведала, якая сітуацыя будзе з ежай і ці дазволяць перадачы, спрабавала прымусіць сябе есці нават тыя катлеты. Але потым пашкадавала аб гэтым, бо пакутавала на пякотку.

Бліжэйшым часам хачу завесці скаргу ў тую сталовую, дзе гатуюць ізалятарскую ежу. І хачу, каб дырэктар той сталоўкі пры мне з'еў гэтую катлету. Бо гэта самы натуральны здзек з людзей!

**– Цікава, а колькі цяпер вам трэба заплаціць за такую арыгінальную ежу?**

– За 7 дзён – 80 рублёў. Атрымліваецца крыху больш за 11 рублёў на дзень. Дык за такія грошы, прабачце, я магла кожны дзень з тых жа "Васількоў" ежу замаўляць!

Бо калі я аплачваю, то маю права патрабаваць якаснага харчавання.

Я звярталася да начальніка ізалятара з пытаннем, ці еў ён сам суп, якім кормяць зняволеных. Ягo не змаглі прагліннуць нават тыя людзі, якія не маюць перадач з волі, разумееце? "Ну мы ж не самі гэта гатуем!" – адказаў ён.

Але ж нехта павінен кантраляваць якасць гэтай ежы! Я думаю, нармальна жывуць тыя, хто працуе ў тых сталоўках. Мяркую, там карупцыя буяе, бо ежа, якую нам прапаноўвалі, насамрэч каштуе капейкі тры, а куды знікаюць астатнія прадукты?

Напрыклад, нам увесь тыдзень прыносілі кашу – проса і сечку. Я патрабавала грэчку. Дык жанчына, якая ў ізалятары была даўжэй за мяне, сказала, што за тры месяцы грэчку толькі раз давалі! Бульбу таксама рэдка давалі, а калі прыносілі пюрэ – яго есці было немагчыма. Нават яшчэ пастарацца трэба, каб так звычайную страву згатаваць!..

Дзякуй Богу, я ў ізалятары правяла толькі сем сутак. Але ж ёсць людзі, якія адбываюць больш значныя тэрміны. І зняволенне – гэта асноўнае пакаранне для іх. Атрымліваецца, што гэтых людзей яшчэ і катуюць ежай. Напрыклад, у турмах нельга набыць малочныя прадукты – нават за свае грошы. Тлумачаць тым, што, маўляў, няма дзе захоўваць. Ну хіба гэта нармальна?

– А калі параўнаць умовы ў беларускіх турмах і замежных – дык гэта проста неба і зямля!

Я лічу, што трэба ўзнімаць гэтыя пытанні на ўсіх узроўнях.

**Марына КОКТЫШ.**

РЕЙТИНГ

# Кислый, Топузидис, Мошанский и другие

*Издание «Ежедневник» составило топ-200 успешных и влиятельных бизнесменов Беларуси.*

Второй год подряд его возглавил совладелец игровой империи Wargaming.net **Виктор Кислый**. Созданная 40-летним Виктором Кислым компания Wargaming.net входит в число ведущих мировых издателей многопользовательских онлайн-игр и по разным оценкам стоит от 3 до 4 млрд долларов.

Вместе с основным владельцем Wargaming.net в топ-25 вошли его партнеры **Иван Михневич** и **Николай Кацелапов**. Белорусскую IT-индустрию в верхней части рэнкинга представляют также президент EPAM Systems **Аркадий Добкин** и основатель фонда VP Capital **Виктор Прокопеня**. Всего в топ-200 успешных и влиятельных бизнесменов Беларуси-2017 авторы исследования и эксперты включили около 40 представителей IT-сферы. Кроме IT-сектора топ-200 успешных и влиятельных бизнесменов Беларуси-2017 пополнился представителями фармацевтической отрасли и частного военпрома. В целом топ-200 успешных и влиятельных бизнесменов Беларуси-2017 обновился примерно на четверть.

## Вот так выглядит первая двадцатка рейтинга 2017 года:

1. **Виктор Кислый**, 40 лет (1976). Никосия (Кипр). Генеральный директор Wargaming Group Ltd., заместитель директора по развитию СООО Гейм Стрим. **Интересы**: IT, финансы, недвижимость, инвестиции.

2. **Павел Топузидис**, 60 лет (1956). Минск. Председатель правления ООО «Табак-Инвест». **Интересы**: табак, ритейл, недвижимость, отдых и развлечения.

3. **Александр Мошенский**, 46 лет (1970). Брест. Генеральный директор СП ООО «Санта Импэкс Брест», член наблюдательного совета ОАО «Банк развития Республики Беларусь». **Интересы**: продовольствие, ритейл, отдых и развлечения, недвижимость.

4. **Владимир Пефтиев**, 59 лет (1957). Минск. Экс-председатель общего собрания акционеров ЗАО «Белтехэкспорт», экс-совладелец ЗАО «Управляющая компания холдинга Белтех Холдинг». **Интересы**: инвестиции.

5. **Александр Луценко**, 54 года (1962). Люксембург, Светлый (Россия). Председатель совета директоров Sodrugestvo Group S.A. **Интересы**: сельское хозяйство, продовольствие, торговля, транспорт.

6. **Аркадий Добкин**, 56 лет (1960). Ньютаун (Пенсильвания, США). Совладелец, президент и председатель совета директоров EPAM Systems Inc. **Интересы**: IT.

7. **Дмитрий Лобяк**, 48 лет (1968). Минск. Директор ООО «Юрас Ойл», неисполнительный директор, член совета директоров ПАО «Уралкалий». **Интересы**: химия, торговля.

8. **Александр Шакутин**, 57 лет (1959). Минск. Председатель совета директоров ОАО «Амкодор – управляющая компания холдинга», председатель совета директоров ООО «Салео – управляющая компания холдинга», председатель наблюдательного совета ЗАО «Абсолютбанк». **Интересы**: машиностроение, ТЭК, инвестиции, финансы, недвижимость.

9. **Алексей Олексин**, 37 лет (1979). Минск. Директор СЗАО «Энерго ойл». **Интересы**: ТЭК, финансы, логистика, недвижимость, продовольствие.

10. **Иван Михневич**, 37 лет (1979). Никосия (Кипр). Генеральный директор Synergy Horizon, член инвестиционного комитета SCSS Fund Management. **Интересы**: IT, ТЭК, инвестиции.

11. **Виталий Арбузов**, 52 года (1964). Минск. Председатель совета директоров Fenox Global Group, председатель совета директоров Fenox Venture Capital. **Интересы**: автокомпоненты, автопроизводство, венчурные инвестиции, ритейл.

12. **Валентин Байко**, 46 лет (1970). Гродно. Председатель общего собрания участников СООО «Конте Спа». **Интересы**: текстиль, недвижимость, продовольствие, сельское хозяйство, ритейл, отдых и развлечения.

13. **Дмитрий Байко**. Гродно. Заместитель генерального директора СООО «Конте Спа». **Интересы**: текстиль, недвижимость, продовольствие, сельское хозяйство, ритейл, отдых и развлечения.

14. **Валерий Шумский**, 56 лет (1960). Москва (Россия), Минск. Председатель совета директоров Группы компаний «Юкола». **Интересы**: ТЭК, отдых и развлечения.

15. **Николай Воробей**. Новополоцк. Совладелец ООО «Интерсервис», член наблюдательного совета ЗАО «Абсолютбанк». **Интересы**: ТЭК, логистика, отдых и развлечения, деревообработка, недвижимость, инвестиции.

16. **Николай Кацелапов**, 37 лет (1979). Никосия (Кипр). Директор по развитию бизнеса Wargaming Group Ltd. **Интересы**: IT, финансы, недвижимость.

17. **Александр Центер**, 50 лет (1966). Минск. Председатель правления Группы компаний А-100. **Интересы**: ритейл, ТЭК, недвижимость, транспорт.

18. **Виктор Петрович**. Минск. Директор ООО «Табак-инвест». **Интересы**: табак, ритейл, недвижимость, отдых и развлечения.

19. **Сергей Литвин**, 50 лет (1966). Монако (Монако). Член наблюдательного совета ООО «Евроторг». **Интересы**: ритейл, торговля, алкоголь, недвижимость, продовольствие, финансы.

20. **Владимир Василько**, 50 лет (1966). Монако (Монако). Член наблюдательного совета ООО «Евроторг». **Интересы**: ритейл, торговля, алкоголь, недвижимость, продовольствие, финансы.

ВІНШУЕМ!

# Хто яны, жанчыны года?

*Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.*

Лепшымі ў намінацыі **«За ўклад у развіццё духоўнасці і культуры»** названы:

**Таццяна Кавалёк,** начальнік аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Бярозаўскага райвыканкама,

**Галіна Баркевіч,** начальнік аддзела культуры галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Віцебскага аблвыканкама,

**Алена Сакалова,** галоўны дырыжор камернага хору Гомельскай абласной філармоніі, заслужаны дзеяч культуры Беларусі,

**Ніна Рыбік,** галоўны рэдактар газеты «Островецкая правда»,

**Любоў Серавокая,** дырэктар Любанскай дзіцячай школы народнага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва,

**Валянціна Шуракова,** дырэктар Капыльскага раённага краязнаўчага музея,

**Наталля Цімашэнка,** камерцыйны дырэктар бабруйскага ААТ «Алмаз-Люкс»,

**Ірына Жураўская,** спецыяліст па рабоце з кліентамі выставачнага унітарнага прадпрыемства «Экспафорум».

Пераможцамі конкурсу ў намінацыі **«Жанчына ў навуцы»** сталі:

**Тамара Шаршакова,** загадчыца кафедры грамадскага здароўя і аховы здароўя Гомельскага дзяржаўнага медыцынскага ўніверсітэта, доктар медыцынскіх навук, прафесар,

**Наталля Стракаль,** галоўны навуковы супрацоўнік Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Я.Купалы, доктар фізіка-матэматычных навук, прафесар,

**Алена Курлянская,** загадчыца лабараторыі хранічнай сардэчнай недастатковасці РНПЦ «Кардыялогія»,

**Святлана Лапіна,** загадчыца кафедры дзяржаўнага кіравання сацыяльнай сферай і беларусазнаўства Акадэміі кіравання пры Прэзідэнце Беларусі, доктар сацыялагічных навук, прафесар.

У намінацыі **«За выхаванне дзяцей і моладзі»** адзначаны:

**Вольга Бакуменка,** выхавальніца дзіцячага дома сямейнага тыпу аддзела адукацыі, спорту і турызму Пружанскага райвыканкама,

**Алена Кароль,** дырэктар ДУА «ВПК яслі-сад – пачатковая школа №8 горада Брэста»,

**Святлана Дашкевіч,** выхавальніца дзіцячага дома сямейнага тыпу аддзела адукацыі, спорту і турызму Аршанскага райвыканкама,

**Таццяна Трушаніна,** дырэктар Віцебскага дзяржаўнага прафесійна-тэхнічнага каледжа машынабудавання імя М.П.Шмырова,

**Наталля Мазеніна,** дырэктар Гомельскага гарадскога цэнтра сацыяльнага абслугоўвання сям'і і дзяцей,

**Марына Шэлег,** выхавальніца дзіцячага дома сямейнага тыпу аддзела адукацыі, спорту і турызму Дзятлаўскага райвыканкама,

**Алена Мыцько,** кіраўнік узорнай студыі сучаснага і бальнага танца «Шарм» Смалявіцкага гарадскога Дома культуры,

**Марыя Сапега,** выхавальніца дзіцячага дома сямейнага тыпу аддзела адукацыі, спорту і турызму Круглянскага райвыканкама,

**Алеся Садоўская,** дацэнт кафедры міжнародных адносін БДУ.

Пераможцамі ў намінацыі **«За ўклад у развіццё вёскі»** названы:

**Ганна Мялешка,** гаспадыня аграсядзібы «Утульны куток» Брэсцкага раёна,

**Антаніна Сунцеева,** першы намеснік начальніка ўпраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання Сенненскага райвыканкама,

**Вольга Луцко,** дырэктар Тураўскага малочнага камбіната,

**Зінаіда Раманоўская,** галоўны бухгалтар СВК «Свіслач» Гродзенскага раёна,

**Тамара Алісейка,** галоўны заатэхнік аграфірмы «Лебедзева» РУП «Мінскэнерга» Маладзечанскага раёна,

**Валянціна Цыркунова,** дырэктар ААТ «Малочныя горкі» горада Горкі,

**Святлана Касоўская,** намеснік генеральнага дырэктара КУП «Мінскхлебпрам».

У намінацыі **«Паспяховы старт і надзея Беларускага саюза жанчын»** перамаглі:

**Таццяна Краўчук,** намеснік дырэктара па вучэбнай рабоце Пінскай СШ №1,

**Алена Песталава,** намеснік старшыні камісіі па справах непаўнагадовых Полацкага райвыканкама,

**Марыя Мамашук,** спартсменінструктар нацыянальнай каманды па вольнай барацьбе Рэспубліканскага цэнтра алімпійскай падрыхтоўкі адзінаборстваў,

**Лілія Лебедзева,** начальнік лабараторыі ААТ «ГроднаАзот»,

**Ларыса Коршун,** галоўны рэдактар раённай газеты «Узвышша» (Мінская вобласць),

**Ала Галушка,** намеснік старшыні Магілёўскага гарвыканкама,

**Галіна Філіпёнак,** дырэктар Мінскай СШ №199.

Народная Воля http://www.nv-online.info
21 САКАВІКА 2017 г.

УСМЕШКА МАСТАКА

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка патрабуе ад чыноўнікаў, каб пры аптымізацыі дзяржаўнага апарату адсякалася "ўсё лішняе".

Пад "лішнім" кіраўнік дзяржавы разумее ўсё, што разводзіць бюракратыю і перашкаджае дынаміцы развіцця дзяржавы. Пры гэтым беларускі лідар падкрэсліў, што дамагчыся вынікаў можна не колькасцю служачых, а іх уменнямі і здольнасцямі.

Нагадаем: набліжаецца аптымізацыя Адміністрацыі прэзідэнта. Будуць звольнены да 30% работнікаў гэтай кіруючай структуры.




Малюнак Ірыны ПУСТАВАЛАВАЙ

ЧУЛІ?

# Аплата па лічыльніку

***Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі ў найбліжэйшы час плануе прыняць дакумент, згодна з якім будзе прадугледжана абавязковая аплата цяпла па паказаннях індывідуальных лічыльнікаў уладальнікамі кватэр, дзе такія прыборы ўстаноўлены.***

Праўда, такія прыборы ўсталяваны ў асноўным у новабудоўлях. Сёння толькі каля 2,7 тысячы жылых дамоў – 10% ад эксплуатуемага шматкватэрнага жыллёвага фонду – маюць лічыльнікі пакватэрнага ўліку цеплавой энергіі на ацяпленне і яе рэгуляванне. І прымяненне індывідуальных прыбораў уліку паказвае, што скарачэнне цепласпажывання жылога дома складае 10–15%.

А што са старым жыллёвым фондам? Ці абавяжуць устанаўліваць гэтыя лічыльнікі ўладальнікаў усіх кватэр? Прэс-сакратар Мінжылкамгаса **Генадзь Аксціловіч** адказаў так: «*Тут вялікую ролю адыгрывае цана пытання. Нагадаю, што ў пачатку рэалізацыі праграмы па ўстаноўцы індывідуальных лічыльнікаў спажывання вады з боку насельніцтва было шмат незадаволеных і нязгодных. Сёння, калі ты разлічваешся не па прыборы ўліку, пры сярэднім спажыванні гэта вельмі нявыгадна. Магчыма, аналаг дзеянняў з дапамогай эканамічных рычагоў будзе прыняты і па цеплавых лічыльніках*».

Аднак, як адзначыў Аксціловіч, *"ёсць пытанні па тэхнічнай магчымасці, паколькі большасць дамоў у нас з вертыкальнай сістэмай разводкі ацяплення, што ўскладняе ўстаноўку індывідуальных лічыльнікаў»*. Паводле яго слоў, прыкладны кошт аснашчэння аднаго ацяпляльнага прыбора размеркавальнікам цяпла і тэрмарэгулятарам (з улікам мантажных работ) складае каля 130 рублёў, пры тым што размеркавальнік электроннага тыпу каштуе каля 30 рублёў, а тэрмарэгулятар – ад 20 да 80 рублёў у залежнасці ад тыпу.

ФИНАНСОВЫЙ ЛИКБЕЗ

# По Сеньке шапка

«В Беларуси построен полный коммунизм для иностранцев, а белорус и 100 долларами обойдется…» Эта мысль принадлежит читательнице «Народной Воли» Анне Пургель из деревни Русино Барановичского района. Она же предлагает установить следующий курс доллара: 25 копеек. Мол, тогда средняя пенсия в Беларуси станет не 150 долларов в эквиваленте, а в несколько раз выше. Предлагает также запретить деятельность бирж и т.д.

С одной стороны, наивность таких суждений даже умиляет: вот так просто – приказать доллару быть четвертинкой нашего нового рубля. С другой – тут впору говорить о недостаточной финансовой грамотности нашего населения, на что время от времени сетуют работники банковской системы.

Между тем подобные заблуждения имеют глубокие исторические корни. Были времена, когда люди только познавали азы политической экономии, открывали для себя секреты денежного обращения. Появилась так называемая номиналистическая теория денег. Номиналисты считали: если на денежных знаках нарисовать номинал с большим количеством нулей, то в мгновение ока и разбогатеешь.

Так примерно получается и у нашей читательницы. Впрочем, чтобы волшебным образом придать дополнительный авторитет советскому рублю, еще в 1960-е годы Госбанк СССР пускался во все тяжкие и устанавливал административным путем, в приказном порядке и совершенно произвольно курс советского рубля к доллару США 63 копейки. Американцы, конечно, такой курс никогда не признавали. И во взаимной торговле, которая велась в небольших объемах, обе стороны, насколько я помню, применяли иные соотношения валют. Ближе к тем, которые предлагали американцы. То есть несколько советских рублей за один «зеленый».

На вопрос можно посмотреть проще. Если на внутреннем рынке любой страны продается валюта иных государств за национальную, то курсы складываются в первую очередь от наличия предложения инвалюты и от объемов национальной денежной массы, которая обращается в этой стране. Если предложение инвалюты, которую в основном зарабатывают предприятия-экспортеры, на рынке растет, то при заданной национальной денежной массе она будет дешеветь. И наоборот. Ну, скажем, как и цены на картошку на колхозном рынке. Хороший урожай – картофель дешевый. Ведь и инвалюта – это тот же товар, ее курсы, а это те же цены, складываются в зависимости от спроса и предложения на данный товар.

Конечно, подобный взгляд на проблему является упрощенным. Дело в том, что на эти спрос и предложение, которые проявляются во время торгов на валютной бирже, влияют десятки факторов. Зачастую и разнонаправленно. К примеру, валютные поступления в Беларуси снижаются уже четыре года подряд: с 50,6 млрд долларов в 2012-м до 29,6 млрд в 2016 году. А доллар практически весь прошлый год «стоял». И вдруг в последние недели белорусский рубль даже укрепился с 1,95 до 1,89 за «зеленый». А что же было с динамикой рублевой денежной массы? За прошедший год она увеличилась весьма незначительно – лишь на 12,4%. В былые времена она увеличивалась на 30% и более за год. Это свидетельствует о достаточно жесткой денежно-кредитной политике Нацбанка.

Другой главный фактор состоит в том, что компенсацией падающих валютных поступлений в страну от экспорта является чистая продажа валюты населением. Ввиду обвального падения доходов, располагаемых населением, за прошлый год, а именно на 7,3%, население для поддержания привычного уровня потребления продало валюты больше, чем купило, на 1,9 млрд долларов. Это рекорд. По мнению аналитиков, для Беларуси это решающий фактор увеличения предложения валюты и сбалансирования ситуации на валютном рынке. Следует иметь в виду и то обстоятельство, что спрос на валюту на бирже в основном предъявляют предприятия-импортеры, финансовое положение которых далеко от желаемого. На укрепление белорусского рубля положительно влияет и ревальвация рубля российского. Российский рынок остается главным для белорусской продукции, и расхождения в курсах валют невыгодны обеим сторонам.

В качестве сопутствующих факторов укрепления белорусского рубля можно назвать рост банковских рублевых депозитов. Это те сбережения населения, которые не выплескиваются на потребительский рынок и не разгоняют инфляцию, а через банковскую систему кредитуют реальный сектор экономики. В течение 2016 года денежным властям Беларуси удалось привлечь на внутреннем рынке 1,6 млрд долларов и пополнить предложение валюты посредством выпуска облигаций в валюте для банков и населения. А также увеличить предложение валюты на рынке на 1,9 млрд долларов за счет привлечения внешних кредитов. Кроме того, правительство Беларуси только в 2016 году недоплатило за газ порядка 500 млн долларов, которые остались в стране.

Однако дисбалансы в экономике Беларуси накапливаются. Да, сегодня есть временное равновесие на валютном рынке. Но в текущем 2017 году необходимо по набежавшим внешним государственным долгам выплатить более 5 млрд долларов. В предыдущие годы, чтобы погасить текущие валютные долги, правительству удавалось перехватить новые кредиты. В основном у России. То есть рефинансировать внешнюю задолженность. Сегодня Россия не желает кредитовать правительство Беларуси, пока оно не погасит задолженность за поставки газа, которая с момента отказа белорусской стороны платить цену по заключенному ранее договору составила не менее 550 млн долларов. Более того, по этой причине Россия сократила поставки нефти на белорусские НПЗ, урезав живительный источник подпитки валютой белорусской экономики.

В этом витиеватом ответе нашей читательнице А.Пургель о курсе доллара можно рассуждать достаточно долго. Например, сколько времени беднеющее население будет «сливать валюту»? Каковы перспективы привлечения иностранных инвестиций в Беларусь, учитывая критическое состояние частного бизнеса и показательные уголовные процессы над бизнесменами? Не поддастся ли Нацбанк соблазнам оживить экономику, как он это делал ранее, простейшим путем: подбросить дешевые необеспеченные рублевые кредиты предприятиям? А заодно не станет ли правительство искусственно выгонять зарплату «всем по пятьсот» с последующими девальвациями и инфляциями?

Так что, уважаемая Анна Пургель, чудесным образом разбогатеть белорусам вмиг – невозможно. Что в рублях, что в долларах. И формирование курсов доллара и евро – это не игра цифр. Все зависит от силы и эффективности нашей экономики. Насколько она конкурентоспособна, чтобы зарабатывать валюту на мировом рынке. А пока она остается сырьевой и основную часть валюты зарабатывает продажей калийных удобрений и нефтепродуктов, цены на которые на мировом рынке сошли вниз и вряд ли в обозримом будущем поднимутся, нам, белорусам, ничего не светит. Пока, к великому сожалению, белорусская экономика остается непритягательной для западных инвесторов – носителей современных технологий. Остается нереформированной, «завязанной» на непредсказуемый российский рынок. А российское руководство не желает и не имеет финансовых возможностей, как в былые годы, повышать нам пенсии за счет дешевых цен на нефть и газ и «халявных» кредитов. Значит, наши пенсии в 150 долларов и средние зарплаты 380–390 долларов – шапка по Сеньке.

**Богдан ГРЕВЦОВ,**
**экономист.**

КАДРЫ

# «Нафтан» узначаліў брат мэра Наваполацка?

*Некалькі дзён таму генеральным дырэктарам НПЗ стаў Аляксандр Дзямідаў.*



Як паведамляла раней «Народная Воля», на пачатку лютага папярэдні кіраўнік ААТ «Нафтан» Уладзімір Траццякоў быў адпраўлены ў адстаўку ў сувязі *«з зацягваннем тэрмінаў мадэрнізацыі вытворчасці, невыкананнем шэрагу эканамічных паказчыкаў»*. Часовым кіраўніком прадпрыемства быў прызначаны намеснік дырэктара па вытворчасці Сяргей Алтухоў.

На гэтым тыдні Аляксандр Лукашэнка правёў шэраг кадравых змен. У тым ліку генеральным дырэктарам ААТ «Нафтан» стаў Аляксандр Дзямідаў *(на фота).*

Вядома, што да новага прызначэння Аляксандр Уладзіміравіч узначальваў ЗАТ «Беларуская нафтавая кампанія» (з кастрычніка 2012 года).

– *Кіраўнік дзяржавы паставіў задачу ў самыя кароткія тэрміны завяршыць на прадпрыемствах праводзімую мадэрнізацыю,* – адзначыў пасля Аляксандр Дзямідаў. – *Каб там можна было перапрацоўваць нафту любой маркі і з розных краін. «Нафтан» будзе і надалей заставацца флагманам сярод іншых прамысловых гігантаў у рэгіёне.*

Пасля абвяшчэння прозвішча новага кіраўніка завода ў сацыяльных сетках з'явіліся пытанні: ці не даводзіцца Аляксандр Дзямідаў сваяком Дзмітрыю Уладзіміравічу Дзямідаву, які ўзначальвае Наваполацк з 2015 года?

Паводле слоў супрацоўнікаў завода, Аляксандр Дзямідаў раней ужо працаваў на заводзе на пасадзе фінансавага дырэктара, а потым пераехаў у Мінск, пайшоў на павышэнне. Таксама з прыходам новага кіраўніка работнікі звязваюць станоўчыя змены ў эканамічнай сітуацыі прадпрыемства.

«Народная Воля» пацікавілася ў Беларускай нафтавай кампаніі, калі Аляксандр Дзямідаў плануе прыступіць да новых абавязкаў.

– *Прызначэнне на пасаду ўжо ўзгоднена прэзідэнтам,* – сказаў начальнік упраўлення забеспячэння дзейнасці (па пытаннях кантактаў са СМІ) Андрэй Сініца, бо сам Аляксандр Дзямідаў каментарыяў не дае. – *Зараз ідуць звычайныя юрыдычныя працэдуры па пераводзе на новае месца працы. На сённяшні дзень ён яшчэ ў Беларускай нафтавай кампаніі.*

**– Аляксандр Дзямідаў раней працаваў у Наваполацку?**

**– Ён неаднаразова бываў у камандзіроўках на «Нафтане». У Беларускую нафтавую кампанію ён прыйшоў з наваполацкага прадпрыемства.**

**– Кіраўнік Наваполацка Дзмітрый Дзямідаў і Аляксандр Дзямідаў цёзкі або сваякі?**

**– Гэта асабістае жыццё абодвух, і я не магу яго каментаваць. Роднасныя сувязі – асабістая жыццё ўсіх людзей. Вы павінны быць у курсе.**

**Васіль КОРЗУН.**

РУБАМ!

# Хто адкажа за банкруцтва «Базісу»?

*Пра сітуацыю, якая склалася з гандлёвай сеткай «Базіс» у Наваполацку, "Народная Воля" расказвала ў мінулых нумарах.*
*Калісьці паспяховае прадпрыемства сёння распрадае сваю маёмасць, а калектыў застаецца без працы.*
*Запазычанасць узнікла нават перад супрацоўніцамі, якія знаходзяцца ў дэкрэтным адпачынку: дапамогі на дзяцей за люты яшчэ не выплачаны.*
*Кіраўніцтва прадпрыемства каменціраваць становішча адмаўляецца.*
*Сваю версію ўзнікнення эканамічных праблем у арганізацыі прапануе чытачам старшыня Савета ветэранаў ААТ «Базіс» Уладзімір Пуцінцаў.*



– Да нас прыходзяць ветэраны, якія стваралі «Базіс», аддалі яму дзясяткі гадоў, – *кажа Уладзімір Аляксеевіч*. – Звяртаюцца і тыя, хто працуе сёння, і просяць дапамагчы. Людзі не разумеюць, чаму развалілі дзяржаўную арганізацыю і ніхто не прыняў мер па выратаванні. Хтосьці ж павінен несці адказнасць за свядомае знішчэнне гандлёвай сеткі?! Чаму да гэтай сітуацыі няма ўвагі з боку кампетэнтных органаў?

**– Калі ў прадпрыемства пачаліся праблемы?**

– У свой час «Базіс» быў магутнай гандлёвай арганізацыяй, якая ў адрозненне ад прыватных структур на рынку паводзіла сябе культурна. Былі прымальныя цэны, крокавая даступнасць да крам, працаваў прафесійны калектыў і гэтак далей.

Каля 7 гадоў таму да «Базісу» далучылі практычна стратныя арганізацыі «Плодоовощторг» і «Верасы». Эканамічныя цяжкасці, якія прывялі да вядомага выніку, пачаліся не ўчора.

Яшчэ ў 2013 годзе дырэктар Надзея Кнырко на сходзе калектыву ветэранаў распавядала пра тое, што прадпрыемства здае пазіцыі.

**– У чым гэта выяўлялася?**

– Рэзка ўпалі паказчыкі прыбытку, з'явіліся праблемы з абаротнымі сродкамі. Але ніякіх захадаў па вырашэнні праблем не прымалася. Больш за тое, неэфектыўна выдаткоўваліся сродкі: на рэканструкцыю крам «Ялінка», «Абутковая», перанос кандытарскага цэха з крамы «Дзвіна» ў гандлёвы цэнтр «Глобус». Не апраўдалі затрачаных сродкаў і іншыя аб'екты.

Я лічу, што развал «Базісу» быў загадзя прадвызначаны. Прадпрыемства было перададзена ў рукі далёка не лепшага ў горадзе дырэктара, а яна не забяспечыла нармальную работу калектыву, а таксама сістэму кіравання ў рынкавых умовах.

Узнікае пытанне: чаму ўсё замоўчвалася і праходзіла ў цішыні? Кіраўніцтва першапачаткова не збіралася выводзіць арганізацыю з крызісу: даўгі нарасталі, з пастаўшчыкамі не разлічваліся, асартымент зніжаўся. Дайшлі да таго, што выплачваць зарплату пачалі сертыфікатамі на прадукты!

А заробак дырэктара ў гэты час не падаў…

**– Адкуль ведаеце пра гэта?**

– Калі Надзея Мікалаеўна Кнырко балатавалася ў дэпутаты Наваполацкага гарадскога Савета на мінулых выбарах, то падала інфармацыю аб сваім даходзе – калі браць з месячнага разліку, то ён складаў 25 мільёнаў недэнамінаваных рублёў.

**– Кажуць, што новы гандлёвы цэнтр «Глобус», на які рабілі стаўку, не акупіўся, з-за чаго і пачаліся праблемы...**

– Яго будаўніцтва пачалося яшчэ пры былым кіраўніцтве горада. Надзея Кнырко казала, што пабудаваць «Глобус» яе абавязаў гарвыканкам. Мы ведаем, што Кнырко трохі хітруе: гэты ўчастак зямлі хацелі набыць некаторыя прыватныя кампаніі. Але потым яны перадумалі, бо будаваць яшчэ адзін супермаркет на ўскраіне горада нявыгадна.

Адным словам, быў распрацаваны бізнес-план, які не адпавядаў рэальным выдаткам. Яго перадалі ў банк і атрымалі крэдыт. Не ведаю, як банк мог вылучыць сродкі на такі план, але будаўніцтва гандлёвага цэнтра і стала апошняй кропляй у банкруцтве "Базісу".

У выніку халатнасці і непрафесійнага падыходу да выкарыстання грашовых сродкаў у горадзе адбылося знішчэнне трох дзяржаўных структур.

**– Вы спрабавалі пагаварыць з кіраўніцтвам «Базісу»?**

– Надзея Мікалаеўна недаступная, каб пагаварыць, трэба запісацца на прыём і невядома колькі чакаць. А калі я да яе прыходзіў, то дырэктар рабіла выгляд, што кудысьці вельмі спяшаецца.

Яна неаднаразова сама казала: «Тое, што адбываецца з прадпрыемствам, не мая ініцыятыва… Усё пад кантролем аддзела гандлю гарвыканкама».

**– Які лёс работнікаў?**

– У мяне 46 гадоў стажу работы ў гандлі. Крыўдна за прафесійны калектыў «Базісу», на які плюнулі і выкінулі. Сёння работнікі нікому не патрэбны. Людзей выжываюць з працоўных месцаў нізкімі заробкамі, запазычанасцямі, як у сітуацыі з жанчынамі ў дэкрэтным адпачынку. Пра дапамогу для ветэранскай арганізацыі я проста маўчу. На супрацоўнікаў, якія аддалі дзясяткі гадоў жыцця прадпрыемству, махнулі рукой.

Кажу ад усіх ветэранаў ААТ «Базіс»: чаму адбываецца знішчэнне прадпрыемства? Складваецца ўражанне, што кіраўніцтва Наваполацка, ведаючы пра гэтыя факты, хавае сапраўдныя прычыны банкруцтва арганізацыі.

**Раман ВАСЮКОВІЧ.**
**Фота аўтара.**

РЕДКИЕ ЛЮДИ

# Воин и сеятель

*94-й год пошел Владимиру Демьяновичу Козлову. Удивительный человек, удивительная жизнь! И я хочу, чтобы читатели «Народной Воли» узнали о нем.*

Вот рассказ дочери Владимира Демьяновича Людмилы Свидерской:

*– Мой папа в 1941 году после окончания восьми классов, будучи комсомольцем и приписав себе год, добровольцем ушел на фронт. И уже вскоре принимал участие в обороне Рогачева, защищал Смоленск, затем были тяжелейшие бои под Лугой, оборона Ленинграда в составе Волховского фронта. Затем Центральный фронт, Курское направление – знаменитое танковое сражение под Прохоровкой, папа уже командир танкового взвода.*

*18 августа 1943 года был тяжело ранен. После выздоровления принимал участие в Ясско-Кишиневской операции в 1943–1944 годах, освобождал Будапешт и принимал участие в тяжелых боях на Дунае, а также в районе озера Балатон. Освобождал Вену – столицу Австрии. За мужество, проявленное в боях за этот красивейший европейский город, награжден орденом Отечественной войны первой степени и орденом Боевого Красного Знамени.*

*Много ярких страниц в военной биографии папы. Вот один из ярких эпизодов. Было получено задание: окружить немецкую дивизию. Для изучения места будущих боев папу посадили в самолет-разведчик – и полетели. Изучив сверху обстановку и маршрут, папа повел свою танковую группу в обход немецких войск и с блеском выполнил задание.*

Военный путь Владимира Демьяновича в Великой Отечественной войне можно проследить по наградным листам, благодарностям Верховного Главнокомандующего, приказам о награждении, которые скрупулезно собрала в военных архивах его дочь Людмила.

### 12 марта 1944 года

Из наградного листа на представление к ордену Красной Звезды, подписанного командиром 1433-го самоходного артиллерийского Новгородского полка подполковником Моревым.

«В боях с немецкими захватчиками в районе реки Западная Нарва, под ожесточенным артиллерийским огнем противника, умело маневрируя огнем своей батареи, обеспечил успешное продвижение подразделений 123 единиц. Действуя в боевых порядках пехоты, уничтожил 3 ПТО, 2 блиндажа и до 100 солдат и офицеров противника. 7 марта огнем батареи обеспечил выход из окружения стрелкового батальона. Будучи окружен вражескими автоматчиками, умело организовал оборону и, используя захваченные у противника пулеметы, отбил три вражеские контратаки, не имея при этом потерь в личном составе. Личным примером и мужеством вдохновлял на боевые подвиги подчиненных.

Достоин правительственной награды – ордена Красной Звезды».

### 13 марта 1944 года

От имени Президиума Верховного Совета ССР за образцовое выполнение боевых заданий командования на фронте борьбы с немецкими захватчиками и проявленные при этом доблесть и мужество (приказ №018/П) лейтенант Владимир Демьянович Козлов (командир батареи 1433-го Отдельного самоходного артиллерийского Новгородского полка) награжден орденом Красной Звезды.

### 24 марта 1945 года

Из наградного листа к представлению к ордену Красного Знамени, подписанного командиром 912-го Самоходного артиллерийского полка майором Лопатниковым и начальником штаба полка капитаном Ходоновым:

«Батарея тов.Козлова, действовавшая в составе полка, 20 марта 1945 г. имела задачу с ходу атаковать колонну танков противника и сорвать таким образом его наступление. СУ (*самоходная установка.* – **Авт.**) выступили из исходного положения. Колонны двигались навстречу друг другу. Жаркая встреча с противником произошла южнее Рацтеметедюле. Тов.Козлов дал приказ батарее вести точный огонь по танкам противника и сам спокойно сел за приборы. С первых же выстрелов тов.Козлов поджег один танк T-VI, вскоре такая же участь постигла и второй. Другие СУ батареи, ведя сосредоточенный огонь, подожгли два танка T-VI. Ураганный огонь «тигров» не помешал тов.Козлову делать свое правое дело. За один день 20 марта 1945 года батарея уничтожила четыре немецких танка, в том числе лично тов.Козлов – два.

За умелое руководство батареей, мужество, отвагу и достойное проявление в бою, тов.Козлов достоин правительственной награды – ордена Красного Знамени».



### 4 апреля 1945 года

Из наградного листа к представлению к ордену Ленина, подписанного командиром 912-го самоходного артиллерийского полка майором Лопатниковым и начальником штаба полка капитаном Ходоновым:

«В период наступательных действий полка в районах Сабан-Батьян, Марицхида, Арпаш, Едьед, Чорно, Бадьосло, Дьеро, Чапод, Надьердей, Перестерг, Дадьценк, Балф, гг.Шопрон, Цагерсдорф, Мюллендорф, Вимнассинг, Унтер Вальтерсдорф, Моосбрунн с 21 марта по 1 апреля 1945 года тов. Козлов проявил себя подлинным героем-патриотом нашей Родины. Смелыми, инициативными и решительными действиями каждый раз одерживал победу над врагом, нанося ему большой урон в живой силе и технике. За этот период батарея тов.Козлова уничтожила до батальона пехоты, подбила два танка, четыре бронетранспортера и уничтожила восемь ПТО (*противотанковых арудий.* – **Авт.**).

В бою за Моосбрунн тов.Козлов был тяжело ранен, но командование батареей не передавал и с поля боя не уходил. Только после потери сознания его удалось эвакуировать с поля боя.

За мужество и геройство, проявленные в боях, тов.Козлов достоин правительственной награды – ордена Ленина».

### 30 апреля 1945 года

От имени Президиума Верховного Совета СССР за образцовое выполнение боевых заданий командования на фронте борьбы с немецкими захватчиками и проявленные при этом доблесть и мужество (приказ по 3-му Украинскому фронту №082/П от 30.04.1945 г., подписанный командующим Р.Я.Малиновским) гвардии лейтенант Владимир Демьянович Козлов (командир батареи СУ-100 912 самоходного артполка 207-й самоходной артиллерийской Ленинградской Краснознаменной ордена Ленина бригады) награжден орденом Красного Знамени».

Владимир Демьянович неоднократно находился на грани между жизнью и смертью. Так, в наградном листе от 24 марта 1945 года записано, что он имеет четыре ранения, из них одно тяжелое. Через десять дней (4 апреля 1945 года) в наградном листе отмечается уже пять ранений, в том числе два тяжелых.

После окончания Великой Отечественной войны в составе 207-й Ленинградской Краснознаменной орденов А.Суворова и Б.Хмельницкого танковой бригады был направлен на 1-й Дальневосточный фронт, где закончил Вторую мировую войну в Порт-Артуре в сентябре 1945 года.

После демобилизации В.Д.Козлов окончил техникум лесного хозяйства, а позже – экономический факультет Белорусской сельскохозяйственной академии.

Первая послевоенная работа – заместитель начальника управления лесного хозяйства Бобруйской области. Затем неоднократно избирался председателем обкома профсоюза работников сельского хозяйства и заготовок Бобруйской области (с 1954 года – Могилевской). Далее – лесничий Любужского лесничества Могилевского района, директор райбыткомбината и последняя работа – коммерческий директор предприятия слепых в г.Могилеве.

Несмотря на преклонный возраст, Владимир Демьянович и сегодня в строю. С ним приятно беседовать на любые темы, в том числе о внутренней и внешней политике. На все вопросы у него есть свое сложившееся суждение. Он образец мудрости, самодисциплины, поддержания крепких родственных связей.

Проживает Владимир Демьянович Козлов в агрогородке Колодищи Минского района вместе со старшей дочерью.

**Михаил ДЯТЛОВ,**
**племянник Владимира Демьяновича.**

ДАВЕДАЧНАЕ БЮРО СПАЖЫЎЦОЎ



На пытанні чытачоў адказвае старшыня Пухавіцкай раённай арганізацыі ГА "Беларускае таварыства абароны правоў спажыўцоў" Васіль ВАЛАСЮК.

### Французская парфума – не зусім французская

*Заказала ў інтэрнэт-магазіне французскую парфуму па танным кошце. Прыйшоў заказ, а там бутэлечка негерметычная. Дый французская парфума як бы не зусім французская – пах не той... Што мне зараз рабіць?*

**Алеся, г.Столін.**

– Складзіце акт, а тавар вярніце назад у інтэрнэт-магазін.

### Вярнуць дзверы ў магазін

*Некалькі гадоў таму купілі дзверы ў кватэру, але паколькі рамонт не рабілі, то і дзверы да нядаўняга часу не ставілі. Зараз падчас рамонту высветлілася, што яны за гэты час рассохліся, а магазін адмаўляецца прымаць тавар назад. Маўляў, гарантыйны тэрмін закончыўся. Што рабіць?*

**Сяргей КАРНІЛАЎ, Віцебск.**

– Калі не хочуць прымаць дзверы назад, то рабіце экспертызу. Эксперт і высветліць прычыну недахопу.

ДЫСКУСІЯ

# Лепш быць саюзнікамі, чым ворагамі

### (Адказ Наталкі Бабінай Лявону Баршчэўскаму)

У артыкуле Лявона Баршчэўскага "Мінскія размовы з Міколам Рабчуком", змешчаным у адным з лютаўскіх нумароў "Народнай Волі", аўтар удзяліў некаторую ўвагу маёй асобе і дзейнасці Таварыства ўкраінскай літаратуры пры Саюзе пісьменнікаў, якое я маю гонар узначальваць. Я лічу патрэбным пракаментаваць некаторыя ягоныя выказванні.

Расказваючы пра сустрэчу з вядомым украінскім інтэлектуалам Міколам Рабчуком, паважаны сп.Баршчэўскі адзначае: "У *размове за "круглым сталом" брала ўдзел пісьменніца, кіраўнік Таварыства ўкраінскай літаратуры пры Саюзе беларускіх пісьменнікаў Наталка Бабіна. Я даўноназіраю за яе публічнымі выступленнямі і з нядаўняга часу пачаў заўважаць у іх пэўныя, скажам так, нюансы. Калі раней яна дэкларавала, што асноўнай мэтай сваёй дзейнасці бачыць стымуляванне з беларускага боку беларуска-ўкраінскіх узаемаперакладаў і адпаведных кантактаў, то цяпер (пра гэта пэўным чынам сведчаць і апошнія выпускі рэдагаванага ёй альманаха "Справа") занялася досыць гарачым адстойваннем двух наступных тэзісаў: што Брэстчына і значная частка астатняга Палесся заселена ўкраінцамі, да якіх яна таксама сябе адносіць, і што ў сённяшняй Беларусі (не толькі на Палессі) у беларускай мовы няма ніякіх сур'ёзных перспектыў. Першы тэзіс яна абгрунтоўвае безапеляцыйным сцвярджэннем, што палескія гаворкі – украінскія (хоць і беларускія, і замежныя вучоныя даўно вызначылі гэтую групу гаворак як "пераходную, беларуска-ўкраінскую", ці "ўкраінска-беларускую", і няма даследаванняў, якія сур'ёзна пярэчылі б такому вызначэнню). Другі тэзіс Наталкі Бабінай фармулюецца не адкрыта, а як бы ўводзіцца ў падсвядомасць: беларус сёння павінен выбіраць для сябе або ўкраінскую, або рускую мову (у альманаху "Справа" колькасць рускамоўных тэкстаў, здаецца, павялічваецца з кожным выпускам).*

*Напэўна, шаноўная Наталка хацела пачуць выразную падтрымку для сябе з вуснаў Міколы Рабчука, але не пачула*".

Мне прыемна ўвага да маіх публічных выступленняў з боку сп.Лявона, але мушу сказаць, што інтэрпрэтуе ён іх зусім няправільна.

З моманту стварэння Таварыства ўкраінскай літаратуры пры Саюзе беларускіх пісьменнікаў мы кіруемся ў сваёй дзейнасці Палажэннем аб Таварыстве ўкраінскай літаратуры пры Грамадскім аб'яднанні "Саюз беларускіх пісьменнікаў", прынятым на першым пасяджэнні. У ім запісана: "Таварыства ўкраінскай літаратуры пры ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў" (далей – Таварыства) ствараецца з наступнымі мэтамі:

– спрыяння ўкраінска-беларускім літаратурным сувязям і актывізацыі ўзаемных мастацкіх перакладаў;

– падтрымкі беларускіх пісьменнікаў, якія жывуць у Беларусі і пішуць па-ўкраінску (ці на ўкраінскіх гаворках), а таксама беларускіх пісьменнікаў, якія жывуць ва Украіне і пішуць па-беларуску (ці на беларускіх гаворках);

– развіцця ўкраінскамоўнага прыгожага пісьменства ў Беларусі і беларускамоўнага прыгожага пісьменства ва Украіне;

– захавання і папулярызацыі нацыянальных літаратурных спадчын Беларусі і Украіны.

У рамках заяўленых мэт Таварыства можа выдаваць кнігі, альманахі, бюлетэні, часопісы, іншую друкаваную прадукцыю на беларускай і ўкраінскай мовах, праводзіць грамадска-культурныя мерапрыемствы, накіраваныя на пашырэнне ведаў аб украінскай літаратуры і культуры ў Беларусі і беларускай літаратуры і культуры ва Украіне.

Сябрамі Таварыства могуць быць сябры Саюза беларускіх пісьменнікаў, а таксама іншыя асобы, якія жывуць у Беларусі, Украіне ды іншых краінах і якія падзяляюць мэты і задачы Таварыства.

Таварыства можа спрыяць адукацыйным і культурніцкім праектам іншых арганізацый і аб'яднанняў, накіраваных на рэалізацыю яго мэт".

У рамках гэтых мэт мы і дзейнічаем увесь час.

Адносна брэсцка-пінскіх гаворак, якія я лічу ўкраінскімі, а сп.Баршчўскі сцвярджае, што яны пераходныя (беларуска-ўкраінскія ці ўкраінска-беларускія). У гэтым пытанні я стаю на тых самых пазіцыях, што і вялікая колькасць сур'ёзных філолагаў, этнографаў, пачынаючы ад акадэміка Я.Карскага, які стварыў сваю класічную працу "Беларусы" з вельмі дакладнай картай, дзе паказаны граніцы беларускіх і ўкраінскіх гаворак. На гэтай карце відна, што гаворкі карэннага насельніцтва сучасных Брэсцкага, Кобрынскага, Жабінкаўскага, Маларыцкага, Камянецкага, Іванаўскага, Пінскага, Драгічынскага і частак Бярозаўскага, Столінскага, Пружанскага, Лунінецкага і Івацэвіцкага раёнаў акадэмік адносіў да ўкраінскіх.

Што тычыцца тэрміну "пераходныя гаворкі", то тут я згодна з тымі філолагамі і этнографамі, якія лічаць гэты тэрмін ненавуковым. Пачынаючы з сярэдзіны 50-х гадоў мінулага стагоддзя савецкім філолагам было проста забаронена згадваць пра тое, што на тэрыторыі Беларусі існуюць украінскія гаворкі, а на тэрыторыі Украіны (у Чарнігаўскай вобласці) ёсць беларускія. Менавіта тады савецкі філолаг Фядот Жылко аднёс усе брэсцка-пінскія гаворкі да беларускіх і пераходных беларуска-ўкраінскіх. З дакладнасцю да міліметра арэал беларускіх гаворак стаў супадаць з межамі паміж БССР і УССР. Нічога агульнага з навуковасцю гэта не мае. Скажыце, калі ласка, сп.Лявон, ці чулі вы калі-небудзь пра пераходныя польска-беларускія, нямецка-французскія ці нарвежска-шведскія гаворкі? Канешне ж, не. Бо іх проста не існуе. Як не існуе і пераходных украінска-беларускіх гаворак. І ніхто з сучасных вучоных, не скаваных "палітычнай мэтазгоднасцю" і "воляй партыі", здаецца, пра іх ужо не згадвае. Калі ж я памыляюся і чагосьці не ведаю, то вельмі прашу назваць мне працы навукоўцаў, у якіх не толькі дэкларуецца, але і абгрунтоўваецца наяўнасць нейкіх пераходных украінска-беларускіх гаворак.

Хацела б нагадаць Вам, сп.Лявон, пра Ваш удзел у дыскусіі "Палессе 4.0. Перазагрузка", якая ладзілася напрыканцы мінулага года ў "Кнігарні Логвінаў" з удзелам прафесара Паўла Церашковіча, Ігара Бабкова і Вашай пакорлівай слугі. Вы тады ў адзін з момантаў дыскусіі (гэта ёсць на відэазапісе) сказалі: "У Хабовічах украінская мова". Дзякуй вам за гэта прызнанне! Але Вам, як грамадскаму дзеячу, важна зразумець, што па-ўкраінску (ці ўкраінскімі гаворкамі) гавораць людзі не толькі ў гэтай вялікай вёсцы Кобрынскага раёна Брэсцкай вобласці, а і ў суседніх, і шырэй, з некаторымі дыялектнымі асаблівасцямі, ва ўсім упамянутым вышэй рэгіёне. На жаль, у мяне складаецца ўражанне, што некаторым людзям лягчэй, як сказаў бы Гогаль, з чортам пацалавацца, чым прызнаваць відавочныя факты.

І гэта ідзе на шкоду беларускасці, беларускай мове больш, чым мае ўяўныя грахі. Менавіта гэта – адна з прычын страшнай русіфікацыі рэгіёна і амаль поўнай адсутнасці тут беларускай мовы.

Мяне да глыбіні душы абурыла Ваша сцвярджэнне, што я маніпулюю, "уводзячы ў падсвядомасць: беларус сёння павінен выбіраць для сябе або ўкраінскую, або рускую мову". Што за лухта? Як і любы нармальны чалавек, я горача стаю за тое, каб у Беларусі мова тытульнай нацыі выкарыстоўвалася як мага шырэй, і, спадзяюся, дзесьці зрабіла і раблю дзеля гэтага. Але я цвёрда ўпэўнена, што любы чалавек мае захоўваць і мову сваіх продкаў, мову, атрыманую ў спадчыну ад дзядоў. Для кагосьці гэта і будзе дзяржаўная беларуская, для кагосьці – польская, украінская. Вось тады, я ўпэўнена, "перспектывы" беларускай мовы ўмацуюцца.

Не адпавядае рэальнасці і Ваша заява, што "ў альманаху "Справа" колькасць рускамоўных тэкстаў, здаецца, павялічваецца з кожным выпускам". Па-першае, хаця рэдакцыя не ставіла сабе за мэту неяк сачыць за колькасцю матэрыялаў на рускай мове, у апошніх трох нумарах іх колькасць зменшылася з чатырох да двух. Па-другое, у кожным канкрэтным выпадку змяшчэнне такіх тэкстаў мае тлумачэнне. Да прыкладу, у 2-м выпуску мы змясцілі па-руску артыкул цудоўнага публіцыста, доктара медыцынскіх навук, ветэрана вайны Івана Данілава "Почему российская пропаганда "вышибает мозги" у собственного народа" – менавіта для таго, каб данесці думкі аўтара да мэтавай аўдыторыі, да тых, каму спрабуюць "вынесці мазгі" прапагандысты суседняй дзяржавы. Увогуле ж мы друкуем тэксты па-беларуску, па-ўкраінску, па-руску і на гаворках (да апошняга нумара гэта былі брэсцка-пінскія гаворкі, у апошнім дадаўся цудоўны матэрыял на гаворцы Маладзечаншчыны).

Што да падтрымкі, якую я, "напэўна", хацела пачуць ад пана Рабчука. Зноў не разумею, што вы маеце на ўвазе. Прыезд украінскага інтэлектуала ў Беларусь быў арганізаваны "Кнігарняй Логвінаў" у рамках Года ўкраінскай літаратуры, які праходзіў у ёй. Але Таварыства ўкраінскай літаратуры па меры сваіх магчымасцяў таксама спрычынілася да таго, каб прабыванне Рабчука ў Мінску было як мага больш насычаным і карысным як для беларускай чытаючай публікі, так і для яго самога. Прайшлі сустрэчы, пан Мікола даў інтэрв'ю нашым СМІ – і ў гэтым была ягоная падтрымка нацыятворчым працэсам у Беларусі. Што ж да ўдзелу ў нейкіх унутраных спрэчках, то, думаю, гэта было б нават не зусім карэктна з яго боку.

Самая ж блытаная для мяне і незразумелая фраза, што я адстойваю тэзіс пра тое, што "Брэстчына і значная частка астатняга Палесся заселена ўкраінцамі", і нейкі як бы папрок, што я сябе адношу да ўкраінцаў. Увогуле кажучы, украінцы жывуць па ўсёй тэрыторыі Беларусі – гэта прадстаўнікі ўкраінскай дыяспары, якія ў розныя часы прыехалі ў Беларусь. Можа быць, сп.Лявон мае на ўвазе аўтахтонных жыхароў украінскамоўных рэгіёнаў Брэстчыны, якія, будучы грамадзянамі Рэспублікі Беларусь, лічаць сябе ўкраінцамі? Так, я менавіта з іх. Безумоўна, не ўсе ўкраінскамоўныя грамадзяне Беларусі лічаць сябе ўкраінцамі. Нацыянальная свядомасць складаецца не толькі з мовы. Але і тым, хто лічыць сябе беларусамі, і тым, хто лічыць сябе ўкраінцамі, і тым, хто лічыць сябе прадстаўнікамі іншых нацыянальнасцяў, такое права дае Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь. Нагадаю артыкул 50: "Кожны мае права захоўваць сваю нацыянальную прыналежнасць, таксама як ніхто не можа быць прымушаны да вызначэння і ўказання нацыянальнай прыналежнасці.

Знявага нацыянальнай годнасці караецца згодна з законам. Кожны мае права карыстацца роднай мовай, выбіраць мову зносін. Дзяржава гарантуе ў адпаведнасці з законам свабоду выбару мовы выхавання і навучання".

Калі б я менш ведала сп.Баршчэўскага, то магла б западозрыць яго ў спробе дыскрэдытаваць мяне па нацыянальнай прыкмеце. Мне ўжо даводзілася сутыкацца з рознымі інсінуацыямі ў свой адрас. Аж да таго, што "Бабіна хоча адарваць Брэстчыну ад Беларусі". Карыстаючыся нагодай, хачу сказаць, што падобныя абразы і паклёпы – нагода прыцягнуць паклёпніка ў суд. Спрабаваць змяняць дзяржаўныя межы могуць сёння толькі вар'яты або злачынцы. Я не з іх.

Я люблю сваю краіну і ў меру сваіх сіл раблю і буду рабіць тое, што лічу карысным для яе. То бок буду намагацца спрыяць як развіццю дзяржаўнай беларускай мовы, так і захаванню і развіццю роднай для мяне ўкраінскай мовы і ўкраінскай культуры Брэстчыны, якія спаконвеку існавалі на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь. Я рада, што перадала сваю родную ўкраінскую мову сваім дзецям, пры тым што яны вольна валодаюць і беларускай. Мне хацелася б, каб мае землякі таксама маглі зрабіць гэта. Спадзяюся, што ў гэтай справе мы з Вамі, шаноўны спадар Баршчэўскі, будзем не апанентамі ці, горш таго, ворагамі, а саюзнікамі.

**Наталка БАБІНА.**

СЯМЕЙНАЕ КОЛА

# Бацькі Арцёма ЛУК'ЯНЕНКІ: «У Кіеў паедзем абавязкова»

*На «Еўрабачанні-2017», якое пройдзе ва ўкраінскай сталіцы з 9 па 13 мая, Беларусь прадставіць гурт NaviBand. Арцём ЛУК'ЯНЕНКА і Ксенія ЖУК выступяць з песняй «Гісторыя майго жыцця». Зараз у калектыва шчыльны гастрольны тур па краіне, і знайсці час для інтэрв'ю няпроста. «Народная Воля» завітала ў госці да бацькоў Арцёма – Сяргея і Жанны Лук'яненка ў Глыбокае.*

## Родная мова з дзяцінства



– Першы раз на канцэрце NaviBand мы пабывалі ў адным з мінскіх клубаў, – *успамінаюць Сяргей Аляксандравіч і Жанна Васільеўна.* – Для нас гэта было незвычайна і хвалююча. Клуб запоўніўся цалкам: людзі танчылі і падпявалі. Было прыемна назіраць, як выступае гурт. На канцэрце панавала душэўная атмасфера.

**– Ведаю, што ў вас музычная сям'я...**

– Прафесійна музыкай ніхто, акрамя Арцёма, не займаецца, але як хобі добрая музыка прысутнічае заўсёды. Гэта праўда.

У свой час я скончыла музычную школу, хацела займацца прафесійна, але атрымалася інакш. Паступіла на біяфак і звязала сваё жыццё з педагогікай. Працую настаўнікам біялогіі ў школе №3 у Глыбокім, Сяргей заняты ў сферы праграмавання.

**– А як вы пазнаёміліся?**

– Яшчэ ў студэнцкія гады. Я вучыўся на факультэце радыёфізікі БДУ, а Жанна – на біялагічным. Можна сказаць, што наша знаёмства – гэта даніна традыцыі.

Мы жылі ў інтэрнаце №3 у раёне Курасоўшчыны ў Мінску. На радыёфізікаў вучыліся ў асноўным хлопцы, а на біёлагаў – дзяўчаты. І вельмі часта паміж імі заключаліся шлюбы.

Курасоўшчына наогул унікальнае месца для стварэння сям'і *(смяюцца).*

**– Не настойвалі, каб сын абраў тэхнічную або педагагічную спецыяльнасць?**

– У нас такая пазіцыя: калі дзіцяці падабаецца пэўная сфера, то мы не будзем адгаворваць. Было бачна, што Арцёму цікавая журналістыка: кантакты з людзьмі, падрыхтоўка розных матэрыялаў і гэтак далей. Таму мы яго толькі падтрымлівалі і свайго меркавання не навязвалі.

Арцём паводле гараскопа Леў і цалкам адпавядае гэтаму знаку. Ён можа да нас звярнуцца, пацікавіцца меркаваннем, але канчатковае рашэнне прымае самастойна. За што і нясе адказнасць.

**– Захапленне музыкай праходзіла паралельна з журналістыкай?**

– Музычнай адукацыі ў сына няма. Арцём наведваў музычную школу, але з часам перадумаў займацца. Упершыню ён выканаў песню Валерыя Сюткіна «Сем тысяч над зямлёй» у тры гады.

Перапынак быў толькі ў перыяд ломкі голасу. У гэты час ён асвоіў ігру на гітары. Вучыўся самастойна без дапамогі педагогаў. Гітара, дарэчы, была яго пастаяннай спадарожніцай. Дзесьці да другога курса ўніверсітэта Арцём толькі іграў на гітары, але не спяваў.

У гэты ж час ён пачаў працаваць на радыё «Сталіца». Арцёму ўласцівы актыўны лад жыцця. Яшчэ са школьных гадоў ён гуляў у КВЗ, удзельнічаў у розных творчых конкурсах.

**– На вучобе гэта не адбівалася?**

– Паспяховасць была добрая. Сярэдні бал атэстата склаў больш за дзевяць. Тэсціраванне па беларускай мове Арцём, дарэчы, здаў на 96 працэнтаў. Дапусціў толькі адну памылку і вельмі перажываў.

Сядзець разам з ім над падручнікамі нам ніколі не даводзілася. У Арцёма ёсць важная якасць: уменне аддзяліць галоўнае ад другараднага.

**– Ведаю, што ён вучыўся ў беларускамоўнай гімназіі...**

– Тады быў перыяд, калі навучальныя ўстановы пераходзілі на родную мову. Думаем, што любоў да беларускай мовы засталася са школьных гадоў. Сёння NaviBand выконвае ў тым ліку і беларускамоўныя песні.

## На «зорную хваробу» не пакутуе

**– Зараз часта кажуць пра імклівы поспех групы. У чым, на ваш погляд, сакрэт папулярнасці?**

– Добрая энергетыка, харызма і імкненне. У калектыва ёсць вялікае жаданне рэалізоўваць свае ідэі. У песні яны ўкладаюць душу, таму музыка карыстаецца папулярнасцю.

**– У матэрыяльным плане гэта адчуваецца?**

– Нельга сказаць, што за свае выступленні група атрымлівае вялікія грошы, каб, напрыклад, купляць машыны і кватэры. Але на жыццё ім цалкам хапае. А калі ёсць магчымасць займацца любімай справай і не пакутаваць фінансава – гэта шчасце.

Арцём часам агучвае мэту сваёй дзейнасці: ён хоча, каб усе ўдзельнікі групы NaviBand маглі жыць ва ўтульных дамах і ездзіць на новых аўтамабілях *(смяюцца).*

Жаданне добрае, думаем, што з часам усё спраўдзіцца.

**– Сын змяніўся пасля таго, як стаў папулярным?**

– Калі вы пра «зорную хваробу», то яе няма. Ва ўсякім выпадку мы не заўважылі. Гурт не ставіць перад сабой мэту ўзбагаціцца. Творчасць для іх значна важней.

Ёсць такая ўсходняя мудрасць, пра якую мы з Арцёмам размаўлялі: *«Чым вышэй чалавек падымаецца, тым больш сціплым ён павінен быць».* Сын пра яе памятае.

**– Усе ведаюць, што Арцём і Ксенія не толькі калегі па сцэне… Але свае адносіны яны не афішуюць...**

– І мы тады не будзем *(смяюцца).* У асабістае жыццё сына мы не ўмешваемся. Ксюша добрая і цікавая дзяўчына. Ад знаёмства з ёй у нас засталося прыемнае ўражанне.

У Арцёма вельмі насычаны графік, і прыехаць у Глыбокае ў яго, на жаль, атрымліваецца вельмі рэдка. Таму мы самі ездзім у Мінск. Абавязкова паедзем падтрымаць гурт у Кіеў.

**– Жыхары Глыбокага ведаюць, што іх зямляк прадставіць краіну на міжнародным конкурсе?**

– Вядома. Прыемна чуць віншаванні, словы падтрымкі. Калегі на працы нават жартуюць: *«Дзе тое «Еўрабачанне», а дзе Глыбокае?! Якая сувязь?»* А сувязь, аказваецца, прамая!

**Раман ВАСЮКОВІЧ.**

ДЛЯ ВЯСЁЛАЙ КАМПАНІІ



## Лявоніха

*Словы і музыка народныя*

А Лявоніху Лявон палюбіў:
Лявонісе чаравічкі купіў.
Лявоніха – душа ласкавая,
Чаравічкамі палясківала.

Як я ў роднага татулькі была,
Дык, як вішанька ў садочку, цвіла.
Цвіла, цвіла ды пацвітывала,
З малайцамі ды пагулівала.

Дасталася злому духу-мужыку –
Высушыў мяне, як ліпінку ў духу.
Няма каму наказаць, наказаць –
Злога духа прывязаць, прывязаць!

А я татку накажу, накажу –
Злога духа прывяжу, прывяжу.
Ён, паганец, уцячэ, уцячэ,
Мне ў галоўку натаўчэ, натаўчэ!

Ой, згубіла мяне мамка мая,
Што за цябе мяне замуж аддала.
Ой, чаму ж цябе пярун не забіў,
Як ты мяне, маладзеньку, любіў?!

Ой, што ж гэта за Лявоніха была,
Што Лявону хлеба-солі не дала?
А Лявона дык і чорт не бярэ –
Несалёную капусту жарэ!

ВЫПАДАК

## Вырашыла нараджаць дома...

***Немаўля пры родах памерла. У дачыненні да медыкаў прызначана службовае расследаванне...***

Жанчына прыехала нараджаць сваё другое дзіця з Санкт-Пецярбурга да маці ў Віцебск – тут яна прапісана. Медыкі папярэджвалі пра магчымыя наступствы родаў дома, але яна адмовілася ехаць у бальніцу. І, калі пачаліся роды, здарылася бяда: немаўля наглыталася каляплодных вод і пачало задыхацца. Калі па выкліку прыехала "хуткая", дзіця шпіталізавалі, аднак дапамагчы дзяўчынцы не атрымалася. Яна памерла ў бальніцы.

*«Следчыя накіравалі вызначэнне ва ўпраўленне аховы здароўя Віцебскага аблвыканкама аб правядзенні службовага расследавання па факце выканання медыцынскімі работнікамі сваіх службовых абавязкаў»,* – паведамілі ў УСК па Віцебскай вобласці. Па факце смерці дзіцяці распачата крымінальная справа па артыкуле "Прычыненне смерці па неасцярожнасці".

СУД ДЫ СПРАВА

## Скраў у банка каля 100 тысяч долараў

***Пракурор папрасіў для махляра 7 гадоў турмы, а прадстаўнік банка – не пазбаўляць яго волі.***

Гэтая гісторыя пачалася ў Слуцку летась. Супрацоўнік банка так захапіўся гульнёй на гандлёвай платформе па руху курсаў валют, што спачатку стаў прайграваць свае зберажэнні, а потым, каб адыграцца, «скарыстаўся» грашыма банка, у якім працаваў.

Махінацыі хутка высветліліся, і малады чалавек трапіў пад следства. Цяпер яго справа разглядаецца ў судзе першай інстанцыі. Што цікава: дзяржабвінавачанне лічыць, што віна супрацоўніка банка цалкам даказана, і папрасіў суд пазбавіць яго волі на сем гадоў з канфіскацыяй маёмасці, а прадстаўнік банка і адвакат абвінавачанага папрасілі суд не пазбаўляць волі маладога чалавека. Іх тлумачэнні: хтосьці ж павінен пакрываць шкоду. Паводле слоў адваката, на дадзены момант абвінавачаны з дапамогай сваякоў гатовы кампенсаваць крыху больш за 40 тысяч долараў: яго бабуля нават выставіла на продаж сваю кватэру. Але ж застаецца яшчэ немалая сума!

У судзе таксама гучалі іншыя аргументы за тое, каб пакінуць маладога чалавека на волі. Праз некалькі месяцаў у яго народзіцца дзіця. Па месцы працы ён характарызуецца станоўча.

Аднак прысуд быў несуцяшальны: 7 гадоў пазбаўлення волі.

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

РЭГІСТРАТУРА

## У Гомелі з'явіцца цэнтр традыцыйнай кітайскай медыцыны

Мемарандум аб супрацоўніцтве ў сферы аховы здароўя падпісалі падчас візіту ў Гомельскую вобласць дэлегацыі правінцыі Сычуань намеснік начальніка ўпраўлення традыцыйнай кітайскай медыцыны **Ян Чэнчун** і начальнік упраўлення аховы здароўя Гомельскага аблвыканкама **Ігар Баранаў.** Дамова разлічана на 5 гадоў. За гэты час у Кітаі павінны прайсці навучанне нашы спецыялісты, а профільны цэнтр павінен адкрыцца на базе Абласнога клінічнага шпіталя інвалідаў Айчыннай вайны.

ВАС ИНТЕРЕСУЕТ...

## За грибы, ягоды и опавшие листья будем платить?

С 1 января 2017 года вступило в силу постановление Совета министров №927. Название у него мудреное: *«Об установлении таксовой стоимости за побочное лесопользование и заготовку второстепенных лесных ресурсов, пользование участками лесного фонда в культурно-оздоровительных, туристических, иных рекреационных и (или) спортивно-массовых, физкультурно-оздоровительных, спортивных, научно-исследовательских и образовательных целях».* Как я понимаю, теперь белорусам придется платить за собранные в лесу ягоды, грибы и даже за мох с корой. Но никто не объяснил, где брать такие разрешения, какой штраф надо будет платить за самовольный сбор лесных даров. Хотя, согласитесь, это дикость – платить за то, что растет на белорусской земле без затрат государства, а значит, принадлежит всем одинаково.

**В.А.Прохорчик, ефрейтор.**

Действительно, в ноябре прошлого года появилось постановление правительства №927, в котором говорится об установлении налога за побочное лесопользование и заготовку лесных ресурсов, то есть ягод, грибов, лекарственных трав, орехов, сока. Например, в документе указано, что за килограмм собранных в лесу грибов, черники, малины придется платить 0,01 базовой величины. Во столько же оценен и сбор коры дуба, пустырника, вереска, пижмы… Если в лесу разместить ульи в период медосбора, то за один домик для пчел придется выложить 0,11 базовой величины, а за косьбу трав на площади в 1 гектар либо выпас скота – и вовсе 0,26 базовой величины. Своя цена теперь установлена за заготовку мха, бересты, коры и веток деревьев и даже опавших листьев. Но…

– Дело в том, что 31 декабря 2016 года вступил в силу новый Лесной кодекс Республики Беларусь, – поясняют в Министерстве лесного хозяйства. – Это главный документ для населения. Согласно статье 44 кодекса, «граждане имеют право свободно находиться на территории лесного фонда и **без разрешительных документов бесплатно осуществлять** для удовлетворения собственных нужд **сбор дикорастущих ягод, грибов, плодов, орехов»** и прочих лесных ресурсов, кроме древесины и *дикорастущих растений и грибов, включенных в Красную книгу Республики Беларусь или подпадающих под действие международных договоров Республики Беларусь, а также включенных в перечень наркосодержащих растений и природного наркосодержащего сырья, утверждаемый Советом министров Республики Беларусь.*

Плата за побочное лесопользование и заготовку второстепенных лесных ресурсов предусмотрена только для **юридических лиц, индивидуальных предпринимателей,** которые заготавливают дары леса в больших объемах. Раньше эту стоимость определяли местные исполнительные и распорядительные органы. А с вступлением в силу Лесного кодекса таксы устанавливаются постановлением Совета министров №927.

Что касается заготовки древесного сока, мха, то гражданину необходимо обратиться в лесхоз или лесничество, и там укажут, где можно подсочить березу либо брать мох, и проинформируют о правилах их заготовки. Бесплатно, но на основании лесного билета можно размещать на участках лесного фонда ульи и пасеки, проводить сенокошение, выпас скота. Любой гражданин может получить лесной билет в местном лесхозе, он также выдается бесплатно. А вот предпринимателям за него придется заплатить: юрлицо должно подать заявку на то количество грибов и ягод, которое оно планирует собрать. Если соберет меньше, то деньги ему уже не вернут. А тарифы для юрлиц и индивидуальных предпринимателей согласно постановлению Совмина представлены в таблице.

| Название | Единица измерения | Таксовая стоимость (базовых величин) |
|---|---|---|
| Сенокошение:<br>естественных трав<br>сеяных трав | <br>1 гектар<br>1 гектар | <br>0,26<br>0,84 |
| Выпас скота | пастбищный период, за 1 голову | 0,2 |
| Заготовка всех частей омелы; почек тополя; коры дуба; надземной части багульника болотного, полыни горькой, пустырника, вереска обыкновенного, донника лекарственного, горца птичьего, белены; соцветий пижмы | 1 килограмм | 0,01 |
| Заготовка всех частей одуванчика; плодов боярышника, рябины, черемухи; чаги (березового гриба); шишкоягод можжевельника обыкновенного; соплодий ольхи; листьев крапивы, подорожника, мать-и-мачехи, шалфея лекарственного; коры крушины ломкой; надземной части хвоща полевого, тысячелистника, душицы обыкновенной, пастушьей сумки; корневища девясила высокого | 1 килограмм | 0,03 |
| Заготовка плодов шиповника, калины; цветков ромашки; коры крушины слабительной; надземной части зверобоя, чабреца, череды, ландыша, кипрея; корневищ валерианы лекарственной, аира обыкновенного, дягиля лекарственного | 1 килограмм | 0,05 |
| Заготовка всех частей земляники; почек сосны, березы; плодов бузины черной; цветков бессмертника песчаного; листьев брусники, толокнянки обыкновенной; побегов черники | 1 килограмм | 0,07 |
| Заготовка спор плауна; цветков ландыша, липы, боярышника | 1 килограмм | 0,11 |
| Заготовка орехов лещины обыкновенной | 1 килограмм | 0,02 |
| Заготовка клюквы, голубики, ореха грецкого и прочего | 1 килограмм | 0,07 |
| Размещение ульев и пасек | период медосбора, за 1 улей | 0,11 |
| Сбор брусники, земляники, черники, голубики, клюквы, малины лесной, ежевики; белого гриба, рыжиков, лисичек, подосиновиков, подберезовиков, маслят, груздей, опят, шампиньонов, сморчков | 1 килограмм | 0,01 |
| Заготовка соков древесных (березового и других) | 1 тонна | 0,32 |
| Заготовка мха, лесной подстилки, опавших листьев (влажность до 25%) | 1 тонна | 0,3 |
| Заготовка пней, корней, осмола корневого | 1 складочный куб.метр | 0,07 |
| Заготовка бересты, еловой серки, луба, коры | 1 килограмм | 0,05 |
| Заготовка веток деревьев хвойных и лиственных пород | 1 складочный куб.метр | 0,02 |
| Заготовка деревьев новогодних (ель, сосна) высотой:<br>до 1 метра вкл.<br>от 1 до 2,5 метра вкл.<br>более 2,5 метра | <br>1 штука<br>1 штука<br>1 штука | <br>0,02<br>0,06<br>0,1 |
| Заготовка дикорастущих растений хвойных и лиственных высотой:<br>до 1 метра вкл.<br>более 1 метра | <br>1 штука<br>1 штука | <br>0,01<br>0,02 |
| Лесопользование в целях проведения культурно-оздоровительных, туристических, иных рекреационных и (или) спортивно-массовых, физкультурно-оздоровительных и спортивных мероприятий | 1 гектар/год | 0,21 |
| Лесопользование в научно-исследовательских и образовательных целях | 1 гектар/год | 0,05 |

**Ольга ГРИНЕВИЦКАЯ.**

КАДРЫ

## Беларусаў прыцягвае Омск…

*Новым галоўным трэнерам хакейнага омскага "Авангарда" можа стаць беларускі спецыяліст Андрэй Скабелка.*

Да апошняга часу **Скабелка** быў настаўнікам новасібірскай "Сібіры", але пасля таго, як каманда не вельмі ўдала выступіла ў гэтым сезоне, быў адпраўлены ў адстаўку. Хаця менавіта з імем беларускага трэнера былі звязаны самы гучны поспех клуба за ўсю яго гісторыю – медалі чэмпіянату Кантынентальнай хакейнай лігі ў сезоне 2014/2015.

Зараз, як інфармуюць расійскія СМІ, Скабелка можа ўзначаліць омскі "Авангард". Акрамя гэтага, у трэнерскім штабе, магчыма, з'явіцца яшчэ адзін беларус – аўтар пераможнай шайбы ў варотах шведаў на Алімпіядзе-2002 **Уладзімір Копаць**.

У омскім клубе "Народнай Волі" пакуль афіцыйна не пацвердзілі інфармацыю пра прызначэнне Скабелкі галоўным трэнерам, але даці зразумець, што такія перамовы вядуцца.

Дарэчы, у 2011–2015 гадах памочнікам галоўнага трэнера "Авангарда" працаваў былы настаўнік нацыянальнай зборнай Беларусі **Эдуард Занкавец**.

## …і Кіеў

*А на пасаду галоўнага трэнера футбольнага кіеўскага "Дынама" прэтэндуе Аляксандр Хацкевіч, які да нядаўняга часу кіраваў футбольнай зборнай Беларусі.*

Доўгі час ён жыў ва ўкраінскай сталіцы, працаваў там з маладзёжным складам кіеўскай каманды, таму пасля адстаўкі ў Беларусі вярнуўся на звыклае месца.

**Аляксандр Хацкевіч** узначаліў беларускую зборную ў снежні 2014 года. На гэты сезон перад беларускімі футбалістамі ставілі задачу заняць трэцяе месца ў групе, але задачу выканаць ён не ўдалося.

НОВЫЯ ІМЁНЫ

## Павел Селіверстаў вырашыў, што на «танках» да Алімпіяды не даедзеш



*20-гадовы беларускі лёгкаатлет – адзін з лідараў сусветнага сезона ў скачках у вышыню.*

На нядаўнім чэмпіянаце Еўропы па лёгкай атлетыцы ў зале **Павел Селіверстаў** заваяваў "бронзу", хаця спаборнічаў на "дарослых" спаборніцтвах усяго другі раз. А ў лютым гэтага года Павел чатыры разы біў уласныя рэкорды, што дазволіла яму гучна заявіць пра сябе ў лёгкаатлетычным свеце!

Дарэчы, паводле слоў спартсмена, з 15 гадоў ён захапляўся камп'ютарнай гульнёй World of Tanks і меў дастаткова высокі рэйтынг. Амаль год быў першым у краіне. Выступаў у складзе каманды на спаборніцтвах па кіберспорце. Але ў 2015 годзе "з танкамі завязаў", бо прафесійна займацца дзвюма справамі было складана.

*"Трэба было рыхтавацца да юніёрскага чэмпіянату Еўропы па лёгкай атлетыцы, я выбраў спорт,* – распавёў затым Павел. – *Ад камп'ютарных гульняў давялося адмовіцца".*

Пасля таго як малады чалавек вырашыў не ганяцца за некалькімі зайцамі, яго вынікі на лёгкаатлетычных спаборніцтвах сталі значна лепшыя, і сёння ён – у лідарах сезона.

А з "танкамі" Алімпіяду не выйграеш. І можаш нават не даехаць…

ШАХМАТЫ

### Этюд и задача

В прошлый раз мы напомнили об ушедших из жизни белорусских шахматных композиторах, чьи юбилеи отмечаются в этом году. Приведем композиции еще двух из них. Короткометражный этюд принадлежит **Леониду Пальгуеву** (1937–2006).

**Белые:** Kpb6, Kd3, Kf1, пh6 (4).

**Черные:** Kph3, Cc3, пg6 (3).

**Выигрыш.**

Решается: 1.Kf2+! Kph4 2.Kh2! Kph5 3.Kfg4! Cd2 4.Kf3! C:h6 5.Kf6x.




А на диаграмме – задача **Степана Цырулика** (1927–1997) для самостоятельного решения.

**Белые:** Kph2, Лg4, Kf2, Kh3, пп. g2, g5 (6).

**Черные:** Kpf5, Kc1, Kc8, пп. e3, e5, e6, g6 (7).

**Мат в 3 хода.**

Присылайте решения на адрес редакции (220030 г.Минск, ул.Энгельса, 34а) или на электронный адрес: vadim_ne67@mail.ru.

### Под небом Персии

Чемпионат мира среди женщин в этом году проводился в столице Ирана, куда по ряду причин (в том числе из-за обязательного ношения платка) не поехал ряд ведущих шахматисток. Беларусь была представлена гроссмейстером Анастасией Зезюлькиной, которая в первом раунде со счетом 0,5:1,5 уступила экс-чемпионке мира Анне Ушениной (Украина) и выбыла из борьбы. Исход поединка решился во второй партии.

**Анна Ушенина – Анастасия Зезюлькина**

1.d4 d5 2.c4 c6 3.Kf3 Kf6 4.e3 Cf5 5.Kc3 e6 6.Kh4 Ce4 7.f3 Cg6 8.Фb3 Фc7 9.Cd2 Ce7 10.g3 Ch5 11.0-0-0 g5 12.g4 gh 13.gh K:h5 14.cd cd 15.e4 Kf6 16.Cb5+ Kbd7 17.e5 Kh5 18.Лhg1 0-0-0 19.Kpb1 Kb8 20.Лc1 Kc6 21.C:c6 bc 22.Kb5 Фb8 23.Л:c6+ Kpd7 24.Лc7+ Kpe8 25.Лb7 Фc8 26.Kc7+, 1:0.

### Шахматы «18-»

Завершились первенства Беларуси среди шахматистов до 18 лет. Их выиграли Вячеслав Зарубицкий и Ольга Баделько. Приведем по партии новых чемпионов.

**Вячеслав Зарубицкий – Павел Бабенков (1:0)**

1.e4 e6 2.d4 d5 3.Kc3 Kf6 4.Cg5 Cb4 5.e5 h6 6.Cd2 Kfd7 7.f4 a6 8.Фg4 g6 9.Kf3 Ce7 10.Cd3 Kf8 11.0-0-0 b6 12.Ke2 c5 13.c3 Kc6 14.Фh3 c4 15.Cc2 b5 16.g4 b4 17.f5 Фa5 18.f6 b3 19.fe ba 20.efФ+ Л:f8 21.C:h6 a1Ф+ 22.Kpd2 Ф:b2 23.Лb1 Фba3 24.Лa1 Ф:a1 25.Л:a1 Ф:a1 26.C:f8 Kp:f8 27.Фh8+ Kpe7 28.Фf6+ Kpe8 29.Kg5 Kd8 30.h4 Лb8 31.Фh8+ Kpe7 32.Kh7 Kpd7 33.Фf8 Лb6 34.Kf6+ Kpc7 35.Фe7+.

**Ксения Зеленцова – Ольга Баделько (0:1)**

1.e4 d6 2.d4 Kf6 3.Kc3 Kbd7 4.Kf3 e5 5.Cc4 Ce7 6.0-0 c6 7.Cb3 0-0 8.h3 b5 9.a3 a5 10.Фe2 Ca6 11.Фe3 b4 12.Ke2 c5 13.de de 14.Лd1 c4 15.Ca4 Cc5 16.Фd2 C:f2+ 17.Kph1 Kc5 18.ab Kc:e4 19.Ф:d8 Лa:d8 20.Л:d8 Л:d8 21.c3 ab 22.cb Cb7 23.K:e5 Kh5 24.Kg4 Khg3+ 25.K:g3 C:g3 26.Ke3 Kf2+ 27.Kpg1 Kd3 28.Kf5 Cf2+ 29.Kpf1 Cb6 30.Cb5 K:c1 31.Л:c1 Kpf8 32.Лe1 g6 33.Kg3 Лd2 34.Ke2 Лd5 35.Kc3 Лf5+ 36.Kpe2 C:g2 37.C:c4 C:h3 38.Лh1 Cg2 39.Л:h7 Cf1.

### Проверьте решения

Задача Л.Тамкова от 14 февраля решается: 1.Kpa2 b5 2.Лc5 b4 3.Cc4 Kpc2 4.Ce2x, 1…c5 2.Cb5 c4 3.Л:c4 Kpe2 4.Лc1x.

Первыми правильно ответили Василий Жукович и Игорь Ананич. Не ведет к цели предложенное Алексеем Горловым 1.Лh1.

**Вадим ЖИЛКО.**

ФУТБОЛЬНЫЙ КАЛЕНДАРЬ

# Расписание матчей 27-го чемпионата Беларуси по футболу сезона-2017 и игр с участием сборных




fcminsk.by

**СБОРНЫЕ**

**25 марта, суббота**
Отборочный матч чемпионата мира Швеция – Беларусь

**28 марта, вторник**
Товарищеский матч национальных сборных Македония – Беларусь

**ТУР 1**

**1 апреля, суббота**
Гомель – БАТЭ (Борисов)
Днепр (Могилев) – Динамо (Минск)
Торпедо-БелАЗ (Жодино) – Ислочь (Минский район)
Городея – Шахтер (Солигорск)
Минск – Динамо (Брест)

**2 апреля, воскресенье**
Крумкачы (Минск) – Витебск
Нафтан (Новополоцк) – Слуцк
Неман (Гродно) – Славия (Мозырь)

**ТУР 2**

**8 апреля, суббота**
Славия – Городея
Ислочь – Неман
Витебск – Днепр

**9 апреля, воскресенье**
БАТЭ – Минск
Динамо Мн – Нафтан
Шахтер – Гомель
Крумкачы – Динамо Бр

**10 апреля, понедельник**
Слуцк – Торпедо-БелАЗ

**ТУР 3**

**14 апреля, пятница**
Днепр – Крумкачы
Нафтан – Витебск

**15 апреля, суббота**
Динамо Бр – БАТЭ
Торпедо-БелАЗ – Динамо Мн
Неман – Слуцк
Городея – Ислочь
Гомель – Славия
Минск – Шахтер

**ТУР 4**

**21 апреля, пятница**
Крумкачы – БАТЭ
Витебск – Торпедо-БелАЗ

**22 апреля, суббота**
Шахтер – Динамо Бр
Динамо Мн – Неман
Днепр – Нафтан

**23 апреля, воскресенье**
Славия – Минск
Ислочь – Гомель
Слуцк – Городея

**ТУР 5**

**29 апреля, суббота**
Нафтан – Крумкачы
Неман – Витебск
Гомель – Слуцк
Минск – Ислочь

**30 апреля, воскресенье**
БАТЭ – Шахтер
Торпедо-БелАЗ – Днепр
Городея – Динамо Мн
Динамо Бр – Славия

**ТУР 6**

**5 мая, пятница**
Ислочь – Динамо Бр
Витебск – Городея

**6 мая, суббота**
Славия – БАТЭ
Слуцк – Минск
Динамо Мн – Гомель

**7 мая, воскресенье**
Крумкачы – Шахтер
Днепр – Неман
Нафтан – Торпедо-БелАЗ

**ТУР 7**

**10 мая, среда**
БАТЭ – Ислочь
Гомель – Витебск
Минск – Динамо Мн
Динамо Бр – Слуцк

**11 мая, четверг**
Торпедо-БелАЗ – Крумкачы
Неман – Нафтан
Городея – Днепр
Шахтер – Славия

**ТУР 8**

**14 мая, воскресенье**
Слуцк – БАТЭ
Динамо Мн – Динамо Бр
Витебск – Минск

**15 мая, понедельник**
Ислочь – Шахтер
Днепр – Гомель
Нафтан – Городея
Торпедо-БелАЗ – Неман

**16 мая, вторник**
Крумкачы – Славия

**ТУР 9**

**20 мая, суббота**
БАТЭ – Динамо Мн
Динамо Бр – Витебск
Шахтер – Слуцк
Гомель – Нафтан

**21 мая, воскресенье**
Неман – Крумкачы
Городея – Торпедо-БелАЗ
Минск – Днепр
Славия – Ислочь

**ТУР 10**

**26 мая, пятница**
Витебск – БАТЭ
Крумкачы – Ислочь
Неман – Городея

**27 мая, суббота**
Слуцк – Славия
Динамо Мн – Шахтер
Днепр – Динамо Бр
Нафтан – Минск
Торпедо-БелАЗ – Гомель

**СБОРНЫЕ**

**1 июня, четверг**
Товарищеский матч национальных сборных Швейцария – Беларусь

**ТУР 11**

**2 июня, пятница**
Гомель – Неман

**3 июня, суббота**
БАТЭ – Днепр
Городея – Крумкачы
Славия – Динамо Мн
Ислочь – Слуцк

**4 июня, воскресенье**
Минск – Торпедо-БелАЗ
Динамо Бр – Нафтан
Шахтер – Витебск

**СБОРНЫЕ**

**7 июня, среда**
Отборочный матч молодежного (U-21) чемпионата Европы Беларусь – Сан-Марино

**9 июня, пятница**
Отборочный матч чемпионата мира Беларусь – Болгария

**12 июня, понедельник**
Товарищеский матч национальных сборных Беларусь – Новая Зеландия

**ТУР 12**

**15 июня, четверг**
Крумкачы – Слуцк
Городея – Гомель
Неман – Минск

**16 июня, пятница**
Нафтан – БАТЭ
Динамо Мн – Ислочь
Днепр – Шахтер
Торпедо-БелАЗ – Динамо Бр

**17 июня, суббота**
Витебск – Славия

**ТУР 13**

**20 июня, вторник**
БАТЭ – Торпедо-БелАЗ
Шахтер – Нафтан
Слуцк – Динамо Мн
Гомель – Крумкачы
Минск – Городея

**21 июня, среда**
Динамо Бр – Неман
Славия – Днепр
Ислочь – Витебск

**ТУР 14**

**24 июня, суббота**
Крумкачы – Динамо Мн
Торпедо-БелАЗ – Шахтер
Гомель – Минск

**25 июня, воскресенье**
Неман – БАТЭ
Городея – Динамо Бр
Витебск – Слуцк

**26 июня, понедельник**
Днепр – Ислочь
Нафтан – Славия

**ТУР 15**

**1 июля, суббота**
БАТЭ – Городея
Динамо Бр – Гомель
Ислочь – Нафтан
Слуцк – Днепр

**2 июля, воскресенье**
Минск – Крумкачы
Шахтер – Неман
Славия – Торпедо-БелАЗ
Динамо Мн – Витебск

**ТУР 16**

**29 июля, суббота**
БАТЭ – Гомель
Витебск – Крумкачы
Ислочь – Торпедо-БелАЗ
Славия – Неман

**30 июля, воскресенье**
Динамо Мн – Днепр
Шахтер – Городея
Динамо Бр – Минск

**31 июля, понедельник**
Слуцк – Нафтан

**ТУР 17**

**5 августа, суббота**
Городея – Славия
Днепр – Витебск
Динамо Бр – Крумкачы

**6 августа, воскресенье**
Минск – БАТЭ
Неман – Ислочь
Торпедо-БелАЗ – Слуцк

**7 августа, понедельник**
Гомель – Шахтер
Нафтан – Динамо Мн

**ТУР 18**

**11 августа, пятница**
БАТЭ – Динамо Бр
Ислочь – Городея

**12 августа, суббота**
Крумкачы – Днепр
Слуцк – Неман
Витебск – Нафтан

**13 августа, воскресенье**
Динамо Мн – Торпедо-БелАЗ
Славия – Гомель
Шахтер – Минск

**ТУР 19**

**18 августа, пятница**
Гомель – Ислочь
Нафтан – Днепр

**19 августа, суббота**
БАТЭ – Крумкачы
Торпедо-БелАЗ – Витебск
Городея – Слуцк

**20 августа, воскресенье**
Динамо Бр – Шахтер
Минск – Славия
Неман – Динамо Мн

**ТУР 20**

**25 августа, пятница**
Крумкачы – Нафтан
Днепр – Торпедо-БелАЗ

**26 августа, суббота**
Витебск – Неман
Слуцк – Гомель
Ислочь – Минск

**27 августа, воскресенье**
Шахтер – БАТЭ
Динамо Мн – Городея
Славия – Динамо Бр

**СБОРНЫЕ**

**31 августа, четверг**
Отборочный матч чемпионата мира Люксембург – Беларусь

**1 сентября, пятница**
Отборочный матч молодежного (U-21) чемпионата Европы Беларусь – Греция

**3 сентября, воскресенье**
Отборочный матч чемпионата мира Беларусь – Швеция

**5 сентября, вторник**
Отборочный матч молодежного (U-21) чемпионата Европы Чехия – Беларусь

**ТУР 21**

**8 сентября, пятница**
Гомель – Динамо Мн

**9 сентября, суббота**
БАТЭ – Славия
Шахтер – Крумкачы

**10 сентября, воскресенье**
Динамо Бр – Ислочь
Минск – Слуцк
Городея – Витебск

**11 сентября, понедельник**
Неман – Днепр
Торпедо-БелАЗ – Нафтан

**ТУР 22**

**16 сентября, суббота**
Крумкачы – Торпедо-БелАЗ
Днепр – Городея
Витебск – Гомель

**17 сентября, воскресенье**
Ислочь – БАТЭ
Нафтан – Неман
Слуцк – Динамо Бр
Славия – Шахтер

**18 сентября, понедельник**
Динамо Мн – Минск

**ТУР 23**

**22 сентября, пятница**
Гомель – Днепр
Динамо Бр – Динамо Мн

**23 сентября, суббота**
БАТЭ – Слуцк
Шахтер – Ислочь
Неман – Торпедо-БелАЗ

**24 сентября, воскресенье**
Славия – Крумкачы
Минск – Витебск
Городея – Нафтан

**ТУР 24**

**29 сентября, пятница**
Ислочь – Славия
Витебск – Динамо Бр

**30 сентября, суббота**
Крумкачы – Неман
Нафтан – Гомель
Днепр – Минск

**1 октября, воскресенье**
Динамо Мн – БАТЭ
Торпедо-БелАЗ – Городея
Слуцк – Шахтер

**СБОРНЫЕ**

**5 октября, четверг**
Отборочный матч молодежного (U-21) чемпионата Европы Хорватия – Беларусь

**7 октября, суббота**
Отборочный матч чемпионата мира Беларусь – Голландия

**10 октября, вторник**
Отборочный матч чемпионата мира Франция – Беларусь
Отборочный матч молодежного (U-21) чемпионата Европы Беларусь – Молдова

**ТУР 25**

**13 октября, пятница**
Городея – Неман

**14 октября, суббота**
БАТЭ – Витебск
Шахтер – Динамо Мн
Ислочь – Крумкачы

**15 октября, воскресенье**
Славия – Слуцк
Динамо Бр – Днепр
Минск – Нафтан

**16 октября, понедельник**
Гомель – Торпедо-БелАЗ

**ТУР 26**

**20 октября, пятница**
Крумкачы – Городея

**21 октября, суббота**
Неман – Гомель
Нафтан – Динамо Бр
Слуцк – Ислочь

**22 октября, воскресенье**
Днепр – БАТЭ
Витебск – Шахтер
Динамо Мн – Славия

**23 октября, понедельник**
Торпедо-БелАЗ – Минск

**ТУР 27**

**27 октября, пятница**
Шахтер – Днепр

**28 октября, суббота**
БАТЭ – Нафтан
Слуцк – Крумкачы
Ислочь – Динамо Мн
Гомель – Городея

**29 октября, воскресенье**
Славия – Витебск
Динамо Бр – Торпедо-БелАЗ
Минск – Неман

**ТУР 28**

**3 ноября, пятница**
Днепр – Славия
Витебск – Ислочь

**4 ноября, суббота**
Крумкачы – Гомель
Неман – Динамо Бр
Нафтан – Шахтер

**5 ноября, воскресенье**
Торпедо-БелАЗ – БАТЭ
Городея – Минск
Динамо Мн – Слуцк

**ТУР 29**

**18 ноября, суббота**
БАТЭ – Неман
Динамо Мн – Крумкачы
Слуцк – Витебск
Ислочь – Днепр
Славия – Нафтан
Шахтер – Торпедо-БелАЗ
Динамо Бр – Городея
Минск – Гомель

**ТУР 30**

**26 ноября, воскресенье**
Городея – БАТЭ
Крумкачы – Минск
Гомель – Динамо Бр
Неман – Шахтер
Торпедо-БелАЗ – Славия
Нафтан – Ислочь
Днепр – Слуцк
Витебск – Динамо Мн

Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ

Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info

Паколькі ў рэдакцыі няма магчымасці рэцэнзаваць і вяртаць нявыкарыстаныя матэрыялы, яна пакідае права ўступаць у перапіску за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 20.03.2017 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 25 020 экз. Заказ № 863.

9 772071 964000 17023